● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў

17 верасня 1996 г. аўторак, № 228 (23031)




# ЗВЯЗДА

## КІРАЎНІК ДЗЯРЖАВЫ ПРАЦЯГВАЕ СУСТРЭЧЫ З РАСІЙСКІМІ ПАЛІТЫКАМІ

**16 верасня Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка сустрэўся з дырэктарам Інстытута праблем дыяспары і інтэграцыі (Інстытут новага замежжа), эксдэпутатам расійскай Дзяржаўнай Думы Канстанцінам Затуліным.**

У пачатку перамоў Канстанцін Затулін адзначыў, што напярэдадні паездкі ў Мінск ён меў сустрэчы з шэрагам палітычных дзеячаў, сярод якіх Аляксей Бальшакоў, Юрый Лужкоў, Генадзь Зюганаў. Яны пажадалі беларускаму Прэзідэнту поспехаў у яго дзейнасці.

Канстанцін Затулін адмоўна адгукнуўся аб адной з апошніх заяў Вярхоўнага Савета нашай рэспублікі, у якой, у прыватнасці, гаворыцца аб магчымай пагрозе фашызму ў Беларусі. У ходзе праведзенай гутаркі былі закрануты пытанні, што датычаць палітычнай сітуацыі ў Беларусі, інтэграцыі, эканомікі, культурнага супрацоўніцтва.

**БЕЛТА.**

### АДНЫМ СКАЗАМ

● У студзені—жніўні гэтага года **здабыча беларускай нафты** склала 1.243.665 тон, ці 96 працэнтаў да аналагічнага перыяду мінулага года.

● З пачатку года на Гродзеншчыне 265 чалавек **скончылі жыццё самагубствам.**

● У першым паўгоддзі сёлетняга года кантрольна-рэвізійнымі службамі **выяўлена незаконных выплат, недастач і крадзяжоў** з бюджэтных сродкаў на суму 76101,8 мільёна рублёў у параўнанні з 58548,4 мільёна рублёў у мінулым.

● За два месяцы ў рэспубліцы канфіскавана каля **100 тон украдзенага зерня і кармоў.**

● **Лясы**, па ацэнках спецыялістаў, штогод даюць усім нам **77 мільёнаў тон кіслароду.**



## НАДВОР'Е ХУТКА ПАЛЕПШЫЦЦА

Чарговы непрыемны сюрпрыз падкінула восень. Яна быццам бы насміхаецца над папярэднімі даўгачаснымі прагнозамі сіноптыкаў, якія абяцалі сухі і цёплы верасень. Другі тыдзень льюць дажджы, а сярэдняя тэмпература паветра ў першым месяцы восені сёлета на 5-6° С ніжэй за норму. Каляндарнае «бабіна лета» пачалося некалькі дзён таму. Калі ж мы рэальна адчуем традыцыйную пяшчоту і прыгажосць гэтай дзіўнай, паэтычнай «пятай пары года»?

Як паведамілі карэспандэнту нашай газеты ў Белгідрамецэ, цыклон, які прынёс на тэрыторыю рэспублікі дажджы і пахаладанне, хутка пакіне яе межы. Надвор'е пачне паляпшацца ўжо ў чацвер-пятніцу, а ў выхадныя дні можна будзе ці не апошні раз у гэтым годзе пагрэцца ў промнях восеньскага сонейка, якія ўжо страцілі былую цеплыню.

**Сяргей ПРОТАС.**



**На Віцебшчыне ў навучальным цэнтры «Дрэтунь» некалькі дзён назад закончыўся палявы выхад рэактыўна-артылерыйскага палка ракетных войскаў і артылерыі Узброеных Сіл нашай краіны. Тут упершыню пасля развалу СССР былі праведзены баявыя стрэльбы з ракетнага комплексу «Точка М», а таксама з баявой машыны рэактыўнага залпавага агню «Ураган». Свае задачы беларускія ракетчыкі выканалі на «выдатна».**

**Фота Віктара ДРАЧОВА.**



Ф.СП-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на газету **63850** (індэкс выдання)

**ЗВЯЗДА**

Колькасць камплектаў

на 1996 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

---

| ПВ | месца | літар |
|---|---|---|
| | | |

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА**

на газету **63850** (індэкс выдання)

**ЗВЯЗДА**

| Кошт | падпіскі | руб. | Колькасць камплектаў | |
|---|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | руб. | | |

на 1996 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

## УМОВЫ

### конкурсу сярод паштальёнаў РА «Белпошта» па дасягненню найлепшых вынікаў падпіскі на газету «Звязда» на чацвёрты квартал 1996 г.

Выходзячы з мэты далейшага пашырэння кола падпісчыкаў газеты «Звязда» і ў сувязі з 80-годдзем выхаду першага нумара, рэдакцыя стымулюе працу паштальёнаў у чацвёртым квартале 1996 года на наступных умовах:

Удзельнікамі конкурсу могуць быць як штатныя паштальёны паштовых аддзяленняў, так і няштатныя распаўсюджвальнікі газеты «Звязда», якія займаюцца падпіскай па дамоўленасці з поштай.

Удзельнікі конкурсу дасылаюць асабістыя вынікі дасягнутай падпіскі непасрэдна ў рэдакцыю на спецыяльным бланку, які змяшчае газета, ці на адвольным аркушы (але з абавязковым указаннем неабходных звестак).

Пасля падвядзення вынікаў конкурсу пераможцы ўзнагароджваюцца каштоўнымі прызамі і грашовымі прэміямі па наступных паказчыках:

**1 месца — найбольшая колькасць падпісчыкаў, але не менш як 100**
**2 месца — найбольшая колькасць падпісчыкаў, але не менш як 80**
**3 месца — найбольшая колькасць падпісчыкаў, але не менш як 70**

Трыццаць заахвочвальных прэмій прысуджаюцца за лепшыя паказчыкі падпіскі, якія ідуць следам за трыма першымі пераможцамі.

**ПРЫЗЫ ПЕРАМОЖЦАМ КОНКУРСУ ЎСТАНОЎЛЕНЫ НАСТУПНЫЯ:**

1 месца — матаблок вытворчасці МТЗ
2 месца — каляровы тэлевізар
3 месца — пральная машына

У трыццаць заахвочвальных прэмій будуць уключаны іншыя тавары народнага ўжытку: гадзіннікі, прасы, фены і г. д.

**УДЗЕЛЬНІК КОНКУРСУ**

**сярод паштальёнаў РА «Белпошта» па дасягненню найлепшых вынікаў падпіскі на газету «Звязда»**

| Прозвішча, імя і імя па бацьку | Пашпарт (№, дзе калі і кім выдадзены), а таксама дакладны паштовы адрас | Раённы вузел сувязі, паштовае аддзяленне | Колькасць падпісчыкаў | Прозвішча, подпіс начальніка паштовага аддзялення і пячатка |
|---|---|---|---|---|
| | | | | |

# ПРЭЗІДЭНТ РАІЦЦА З БЕЛАРУСКІМІ СТАРЭЙШЫНАМІ

**«Прыемна бачыць «зарапад» такіх вядомых людзей», — з гэтай фразы Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка пачаў сустрэчу з шэрагам былых кіраўнікоў рэспублікі, імёны якіх трывала звязаны з гісторыяй Беларусі. Сустрэча адбылася 16 верасня па ініцыятыве кіраўніка дзяржавы.**

У ліку яе ўдзельнікаў былі Аляксандр Аксёнаў, Анатоль Андрэеў, Уладзімір Грыгор'еў, Мікалай Дзямянцей, Аляксей Камай, Вячаслаў Кебіч, Міхаіл Кавалёў, Анатоль Малафееў, Ніна Сняжкова, Яфрэм Сакалоў, Баляслаў Шаціла... Некаторыя былыя кіраўнікі рэспублікі знаходзяцца цяпер на заслужаным адпачынку, іншыя паранейшаму ў гушчыні падзей, вядуць актыўную палітычную і грамадскую дзейнасць. Але гэтак жа як і Прэзідэнта, усіх іх непакоіць сітуацыя, якая складваецца ў краіне, будучыня беларускага народа, лёс дзяржавы, аб'ядноўвае жаданне не дапусціць нестабільнасці і процістаяння.

Звяртаючыся да гасцей, Аляксандр Лукашэнка падкрэсліў, што яны з'яўляюцца старэйшынамі нашага грамадства, таму менавіта з імі ён хацеў бы параіцца ў цяперашняй складанай палітычнай сітуацыі. «Вы бачыце, што адбываецца ў нашым грамадстве, аналізуеце падзеі. Я хацеў бы паслухаць вас і параіцца, як у гэтай сітуацыі лепш зрабіць, у якім напрамку дзейнічаць далей Прэзідэнту»,— сказаў кіраўнік дзяржавы. Пры гэтым ён падкрэсліў, што спадзяецца на прамую, адкрытую размову, плюралізм думак, што дазволіла б высветліць пункт гледжання былых і цяперашніх кіраўнікоў краіны па важнейшых падзеях у рэспубліцы.

«Я хацеў бы, каб вы сказалі мне прама ў вочы: у чым я памыляюся, у чым, можа быць, трэба памяняць падыходы, палітыку, якую я праводжу», — адзначыў Прэзідэнт. Ён папрасіў удзельнікаў сустрэчы выказаць сваю думку і аб маючым адбыцца рэферэндуме, а таксама аб тым, што неабходна зрабіць для таго, каб не было абвастрэння сітуацыі і плебісцыт прайшоў у спакойнай абстаноўцы.

Парады людзей, якія мелі дачыненне да кіравання рэспублікай і, паводле слоў Аляксандра Лукашэнкі, стварылі нядрэнную дзяржаву, вельмі важныя для маладога Прэзідэнта, які хацеў бы не проста захаваць лепшае, але і ўнесці свой уклад у далейшае развіццё Айчыны.

Удзельнікі сустрэчы абмяняліся думкамі па важнейшых падзеях палітычнага жыцця краіны, праанялізавалі сітуацыю, якая склалася цяпер. Так, напрыклад, паводле слоў дэпутата Вярхоўнага Савета Анатоля Малафеева, яго сустрэчы з выбаршчыкамі паказваюць, што ідэя Прэзідэнта аб правядзенні рэферэндуму будзе ў цэлым падтрымана народам. Не сумняваючыся, што ўзмацненне паўнамоцтваў кіраўніка вышэйшай выканаўчай улады будзе выкарыстана на карысць дзяржавы, дэпутат у той жа час адзначыў, што нельга не лічыцца і з неспакоем некаторай часткі насельніцтва, у асноўным прадстаўнікоў інтэлігенцыі, якія баяцца, што ад расшырэння паўнамоцтваў Прэзідэнта можа пацярпець дэмакратыя. Таму, лічыць дэпутат, цяпер вельмі важна вызначыць дакладныя дзеянні, накіраваныя на шырокі выхад у працоўныя калектывы, на маладзёжную аўдыторыю і г. д. Пры гэтым Анатоль Малафееў падкрэсліў, што не трэба баяцца вострых вуглоў, а абмеркаванне праекта Канстытуцыі і іншых пытанняў рэферэндуму павінна мець шырокі характар. Дэпутат Вярхоўнага Савета заявіў, што ён не з'ўляецца прыхільнікам абвастрэння сітуацыі і выступае за пошук магчымых кампрамісаў.

Удзел у гутарцы прынялі таксама і цяперашнія кіраўнікі краіны — кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта Міхаіл Мясніковіч, дзяржаўны сакратар Савета бяспекі Віктар Шэйман, старшыня КДБ Уладзімір Мацкевіч, памочнік Прэзідэнта Сяргей Посахаў.

**Ларыса ЛАЗАР, БЕЛТА.**

*УСПАМІНЫ*

# 17 ВЕРАСНЯ 39-га...

**У 1939 годзе, у апошні дзень навучальнага года, перад тым як разысціся на канікулы, наша настаўніца, пані Аўгустынова, сказала, што заўтра кожнаму з нас трэба прынесці хоць колькі грошай, каб ахвяраваць на пакупку зброі для польскага войска. Дома мама сказала: «Што ж, сынок, як трэба, то трэба. Выглядай і ты не горш за ўсіх». Назаўтра ж, прыйшоўшы ў школу, у наш клас зайшлі дзве манашкі ў чорных доўгіх сутанах. Яны былі маладыя прыгожыя паненкі. Іх галовы таксама былі прыкрыты такімі ж чорнымі капюшонамі, і толькі знутры яны былі белыя, гафрыраваныя. Ад таго, што тварыкі гэтых манашак абрамляліся белым, яны выглядалі яшчэ больш прывабнымі і мілымі. На стол у класе манашкі паставілі скарбонку. Кожны вучань падыходзіў да стала і, перахрысціўшыся, цалаваў крыжык са скульптуркай распятага Хрыста і апускаў у скарбонку некалькі грошаў, і я апусціў свае дзве манеткі па дзесяць грошаў у шчылінку.**

На гэтым закончыўся навучальны год і мы разышліся на вакацыі, гэта значыць на канікулы. Пасля канікулаў, першага верасня, мы, прыйшоўшы ў школу, даведаліся, што заняткаў не будзе, а ўсім трэба ісці на Замкавую гару. Там сабраліся вучні з усіх школ Наваградка. У цэнтры стаялі вучаніцы школы манашак-назарэцянак у чорных доўгіх сукенках, некалькі старых манашак і ксяндзоў, праваслаўных святароў і яўрэйскі рабін у чорным капелюшы, пасвяточнаму апранутыя настаўнікі наваградскіх школ. Перад імі на зялёнай траўцы ляжаў польскі бела-чырвоны сцяг, памерам прыкладна як прасціна, па ражках прымацаваны цаглінкамі, бо быў ветраны дзень. На сцягу ляжаў прыпадняты на дзвюх ножках новенькі кулямёт. Школьны інспектар сказаў прамову, што гэты кулямёт быў куплены на грошы, якія ахвяравалі вучні наваградскіх школ. Ксёндз Фарнага касцёла адправіў імшу, доўга маліўся над кулямётам, які перадаецца Войску Польскаму пад камандаваннем маршала Рыдз-Сміглы...

А праз пару дзён стала вядома, што немцы ўжо занялі Варшаву і ў Наваградку з'явіліся першыя бежанцы, якія ўцякалі ад немцаў на ўсход. Мы працягвалі хадзіць у школу, але нашы настаўнікі былі нейкія пахмурныя, маўклівыя. І раптам 17 верасня раніцай над нашай вёсачкай пранесліся ў паветры 3 самалёты. Ляцелі яны вельмі нізка над хатамі, і ад аднаго самалёта раптам аддзяліўся нейкі камячок, які рассыпаўся на сотні паперак такога памеру, як паўсшытка. Гэта былі, як сказалі дарослыя, афішкі.

Мы кінуліся лавіць іх, а яны падалі на агароды, на траву, на стрэхі хат. Мне таксама пашчасціла схапіць пару такіх афішак. Але яны былі напісаны кірыліцай, а мы ў школе вучылі толькі лацініцу. На вялікі жаль, ніхто ў нашай вёсцы не ўмеў чытаць. Толькі мая мама ў свой час вучылася ў царкоўнапрыходскай школе, закончыла адзін клас і хоць неяк магла чытаць: «Браты беларусы! Чырвоная армія нясе вам вызваленне...» Дома мы прачыталі, што Чырвоная армія нясе нам вызваленне і працягвае руку дапамогі брацкаму беларускаму народу, што польскі ўрад разваліўся, польскай дзяржавы больш не існуе. Неўзабаве на Нягневіцкім гасцінцы, як мы называлі, што праходзіў недзе за кіламетр ад нашай вёсачкі, пачуўся страшэнны гул, роў матораў, якога мы ніколі не чулі. Амаль што ўсе пабеглі да гэтай дарогі, і тое, што я ўбачыў, засталося ў маёй памяці на ўсё жыццё. Па дарозе рухалася, з вялікім ровам, мноства танкаў, аўтамашын, трактароў на гусеніцах, якія цягнулі гарматы. На аўтамашынах сядзелі салдаты ў касках з вінтоўкамі. На нейкі момант калона прыпынілася, нешта там упарадзе спыніла. Мы, хлапчукі, падбеглі да першай жа грузавой машыны з салдатамі, я ўчапіўся рукамі за дзверцы кабіны і прагна ўглядаўся ў твар чырвонаармейца, які сядзеў тут жа, перад маімі вачыма. І яго першыя словы, сказаныя па-руску «Осторожно, ребята, осторожно, счас машина тронется» па сённяшні дзень у маёй памяці, як і прыветлівы твар таго чалавека, яго словы. А руская мова гучала і здалася мне вельмі смешнай. Рух арміі працягваўся некалькі дзён, а калоны ўсё ішлі і ішлі на захад — у Наваградак і далей.



***МОЙ ТАТА. УСПАМІНЫ.***
**Мастак С. ГЕРУС.**

Расказаць усю праўду аб гэтым часе аб'ектыўна, напэўна, немагчыма. Кожны чалавек бачыў жыццё сваімі ўласнымі суб'ектыўнымі вачыма, і адзінага погляду на гэты час, напэўна, няма. Страчаная намі Польшча ўспрымалася як чужая бацькаўшчына, а да новай улады прывыкалі не адразу. Ва ўсякім разе, усе хацелі выжыць, ніхто не хацеў паміраць, жыццё працягвалася.

**Сямён ГЕРУС,**
*г. Мінск.*

*АФІЦЫЙНА*

***ПАСТАНОВА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ***

**Аб унясенні змянення ў артыкул 37 Часовага рэгламенту Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. У артыкуле 37 Часовага рэгламенту Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, зацверджанага Пастановай Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 31 мая 1990 года (ЗЗ БССР, 1990 г., № 17, арт. 255), словы «не менш 1/5 народных дэпутатаў БССР, якія прысутнічаюць на сесіі, у Вярхоўным Савеце БССР» замяніць словамі «большасці прысутных на пленарным пасяджэнні дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь».

2. Гэта Пастанова ўступае ў сілу з дня яе прыняцця.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШАРЭЦКІ**

*4 верасня 1996 г., г. Мінск.*
*№ 571–XIII*

## ПРАПАНОВА СТАРШЫНІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА

Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Сямён Шарэцкі 16 верасня 1996 года звярнуўся ў Канстытуцыйны суд Рэспублікі Беларусь з прапановай аб праверцы адпаведнасці Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь пунктаў 2.2, 2.5 Пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь «Аб правядзенні рэспубліканскага рэферэндуму ў Рэспубліцы Беларусь і мерах па яго забеспячэнню» ад 6 верасня 1966 года.

Як вядома, згодна з часткай другой артыкула 149 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, «змяненні і дапаўненні Канстытуцыі могуць быць праведзены праз рэферэндум». Разам з тым дзеючая Канстытуцыя не прадугледжвае магчымасці прыняцця новага Асноўнага закона шляхам рэферэндуму. Згодна з указанай Пастановай Вярхоўнага Савета ад 6 верасня на рэспубліканскі рэферэндум выносяцца два праекты фактычна новых канстытуцый, якія карэнным чынам мяняюць сістэму вышэйшых дзяржаўных органаў і ўзаемаадносінаў паміж імі. Ініцыятарамі праектаў прапануецца зусім новая мадэль арганізацыі ўлады.

Усё гэта і з'явілася прычынай на падставе артыкула 127 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь унесці ў Канстытуцыйны суд Старшынёй Вярхоўнага Савета Сямёнам Шарэцкім гэту прапанову.

**Прэс-служба Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.**

*ПАДРАБЯЗНАСЦІ*

## Касір філіяла «Беларусбанка» вырашыў разбагацець. Але прыйдзецца «цягнуць» тэрмін...

На пачатку верасня, якраз у суботнюю раніцу, у Магілёўскім філіяле «Беларусбанка» спрацавалі 2 рубяжы сігналізацыі. Звычайная справа: кожны працоўны дзень філіяла пачынаўся з «распячаткі» гаспадарчымі органамі сховішча — пасля сігналізацыя супрацоўнікамі выключалася, падлічваліся грошы... 3 верасня адбыўся зрыў: прыйшлося выклікаць аператыўнікаў. Хоць ніякіх яўных пашкоджанняў сховішча і сейфаў не назіралася, ахова палічыла за лепшае ўскрываць «аб'ект» у прысутнасці супрацоўнікаў міліцыі. Інтуіцыя не падвяла: са сховішча знікла 4316 долараў ЗША, 26.596 тысяч беларускіх рублёў, 50 тысяч расійскіх рублёў, рэвальвер аховы «наган», 6 разліковых чэкаў і паперы дазволу на вываз за межы Беларусі валюты. Работнікі філіяла былі ў шоку: рабаванне адбылося практычна пад носам, перад самым адкрыццём. Што ж датычыць злодзея, то тут заставалася толькі пазайздросціць яго вытрымцы: пачынаючы з 8 гадзін 45 хвілін раніцы адчыніць 12 складаных замкоў і паспець «замесці» сляды — такое па сіле далёка не кожнаму.

Менавіта апіраючыся на апошні факт і пачалі распрацоўку версій аператыўнікі крымінальнага вышуку Магілёва. Для ўстанаўлення поўнай карціны рабавання філіяла «Беларусбанка» ім хапіла менш як два тыдні — намнога менш, чым самі зладзеі рыхтаваліся да рабавання (як выявілася ў ходзе следства, крыху больш за паўгода імі было затрачана на выраб дублікатаў ключоў і маральную падрыхтоўку да ўцёкаў). Лагічная выснова аб тым, што нехта з банкіраў мог мець дачыненне да гэтай справы, пацвердзілася. У ходзе апрацоўкі звестак, якія былі прадастаўлены і супрацоўнікамі філіяла і жыхарамі раёна, міліцыя выйшла на аднаго з удзельнікаў вераснёўскага рабавання. Ім аказаўся Андрэй Сапрыкін, які сумяшчаў у банку пасады касіра і кантралёра. Другім членам «банды» аказаўся ранейй судзімы знаёмы касіра. Пакуль толькі ў нешчаслівых рабаўнікоў канфіскаваны рэвальвер «наган». Што датычыцца грошай, то іх лёс зараз высвятляецца. А хлопцы працягваюць «калоцца».

**Ігар ШЧУЧЭНКА.**

*ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ*

**РАСІЯ НЕ ПРЫЗНАЕ КААЛІЦЫЙНЫ КАБІНЕТ ЧАЧНІ**

Каардынацыйны савет грамадска-палітычных рухаў Чачні прадставіў спіс кандыдатаў на пасады ў кааліцыйным урадзе. Кіраўніцтва апазіцыі паведаміла, што на пасаду віцэ-прэм'ера і шэраг іншых пасад вылучаны кандыдатуры палітыкаў, якія ў свой час выступалі супраць Дудаева і яго прыхільнікаў.

Між тым, федэральны ўрад не мае намеру прызнаваць так званы кааліцыйны кабінет Чачні, які ў аднабаковым парадку стварае лідэр сепаратыстаў Яндарбіеў.

**ЗА СЕПАРАТЫСТАМІ ЛЮДЗІ НЕ ПАЙШЛІ. ПРЫНАМСІ, ПАКУЛЬ**

Грамадскасць Італіі не ўспрыняла сур'ёзна заяву лідэра італьянскай Паўночнай лігі Умбэрта Босі, які абвясціў стварэнне незалежнай дзяржавы Паданія на поўначы Італіі. Аднак і ўрад, і апазіцыйныя партыі прызналі, што праблема на поўначы Італіі сапраўды існуе і патрабуе вырашэння. Прэм'ер-міністр Італіі заявіў аб гатоўнасці абмеркаваць з Босі рэформы ў рэгіёне, але падкрэсліў, што Італія павінна застацца цэласнай дзяржавай. Босі меркаваў, што яго падтрымаюць мільёны італьянцаў, але ў нядзелю на мітынг у Венецыі сабралася менш за 20 тысяч чалавек.

**Паводле паведамленняў радыё «Свабода», «Голас Амерыкі» і «Радыё Расіі».**

# «ПРЫВІД КАМУНІЗМУ» Ў ВЯРХОЎНЫМ САВЕЦЕ

## Нярэдка менавіта так называюць дэпутата Валерыя ШЧУКІНА, і не толькі за вочы.

**Перш чым дамовіцца аб сустрэчы са Шчукіным (сакратар Камісіі ВС па нацыянальнай бяспецы, абароне і барацьбе са злачыннасцю), я старанна праштудзіравала «Маніфест камуністычнай партыі», напісаны Марксам і Энгельсам амаль паўтара стагоддзя назад, — каб на ўсякі выпадак быць падкаванай у азах палітграматы. Але Валерый Аляксеевіч адразу паабяцаў, што адкажа на любыя, самыя жорсткія і каверзныя пытанні. Дзякуючы такому прыемнаму для журналіста пралогу ў працэсе гутаркі ўдалося высветліць мноства цікавых і нечаканых рэчаў. Маркуйце самі...**



**— Вас часта называюць «прывідам камунізму» ў Вярхоўным Савеце — не крыўдна?**

— Я ганаруся гэтым!.. Чаму «прывід»? Калі партыю забаранілі, усе баяліся гаварыць аб сацыялізме, капіталізме, камунізме і г. д. А я, прыйшоўшы ў ВС, пачаў называць рэчы сваімі імёнамі: сацыялізм — сацыялізмам, капіталістаў — капіталістамі... Усе шарахаліся: не трэба ніякіх «ізмаў». Трэба! Калі я «ваюю» ў Вярхоўным Савеце, дапусцім, з Клімавым ці Шлындзікавым — ідзе класавая барацьба.

**— Раскошная барада «а-ля Карл Маркс» — даніна перакананням?**

— Бараду адпусціў, калі ў 1985 годзе нарадзілася першая ўнучка: палічыў, што дзед павінен быць з барадой. Перакананні тут ні пры чым: форма барады ад жаданняў не залежыць, як і форма прычоскі.

**— У вашым кабінеце вісіць партрэт Карла Маркса...**

— Заснавальнік вучэння! Дарэчы, яшчэ год назад у Вярхоўным Савеце наогул не было партрэтаў класікаў марксізму.

**— Дзе вам удалося адшукаць партрэт Маркса, гэта ж цяпер такая рэдкасць!**

— У сваёй дачкі на рабоце, яна працуе майстрам ЖЭСа. Там калісьці таксама ўсё пазнімалі, але не выкінулі, схавалі «ў загашнік».

**— У вас такая экстравагантная знешнасць — вы любіце экстравагантна апранацца?**

— А ў чым, прабачце, мая экстравагантнасць?! Я — сакратар Камісіі па нацыянальнай бяспецы, мне сам Бог загадаў хадзіць у форме, што я і раблю! Проста ў «сухапутным» рэгіёне форма ваенна-марскога афіцэра адразу кідаецца ў вочы.

**— Шчукін схільны да нечаканых, незвычайных учынкаў?**

— Наадварот, я вельмі прагназіруемы чалавек. Ніякіх неабдуманых учынкаў!

**— Заўсёды жывяце па правілах?**

— Безумоўна.

**— Вам калі-небудзь пагражала смяротная небяспека?**

— Я небяспеку прадчуваю, таму заўсёды абыходжу...

**— Добрая інтуіцыя?**

— Гэта нават больш чым інтуіцыя.

**— Верыце ў лёс?**

— Так.

**— У вас ёсць зброя?**

— Навошта, ад лёсу не схаваешся! (Смяецца.)

**— Вы гледзіце амерыканскія баевікі?**

— Наогул ніякіх не гляджу — няма часу. Чые перад вачамі экран камп'ютэра.

**— Чаму вы так настойліва выступалі супраць трансплантацыі ўнутраных органаў, у прыватнасці нырак? Хтосьці з родных мае праблемы?..**

— Не, проста ў адрозненне ад большасці дэпутацкага корпуса, прыйшоўшага ў Вярхоўны Савет з дырэктарскіх крэслаў, я сюды прыйшоў акурат з-пад трактара: апошнія 8 гадоў працаваў трактарыстам. Я абараняю інтарэсы рабочых і сялян — а што ім дае трансплантацыя? Яна каштуе шалёных грошай і не з'яўляецца крокам наперад з пункту гледжання перспектывы: неабходна альбо штучныя органы стварадь, альбо рабіць рэгенерацыю — каб печань і ныркі маглі аднаўляцца. А ў нас па закону атрымліваецца адназначна: у кагосьці трэба забраць, каб камусьці «прышыць», а гэта толькі за грошы робіцца. Праблему трансплантацыі я вывучаў вельмі глыбока, праввў каласальнае расследаванне. На жаль, мяне не пачулі...

**— Вы чалавек надзвычай эмацыянальны. Нервы часта падводзяць?**

— Сапраўды, я эмацыянальны, але эмоцыі з нервамі абсалютна не звязаны. Эмоцыі — проста манера выказвацца, пры гэтым я ні на кога не злуюся. І, заўважце, колькі б з кім ні спрачаўся — нікога не зняважыў.

**— Моцныя слоўцы калі-нікалі ўжываеце?**

— У афіцыйнай абстаноўцы — ніколі. А калі, напрыклад, анекдот сябрам расказваеш — з песні ж слоў не выкінеш!.. Ячшэ раз гавару: эмацыянальнасць не перашкаджае быць ураўнаважаным чалавекам.

**— Як Хрушчоў калісьці, чаравік па стале — ніколі, ні пры якіх абставінах?**

— Наадварот, магу зняць чаравік і пастукаць па стале — калі гэта будзе, на мой погляд, пераканаўча. Такі стыль паводзінаў, манера выражэння, аднак гэта не азначае, што я вышэй з сябе, што я неўраўнаважаны чалавек.

**— Вы не давяраеце прэсе?**

— Я??? Хіба я так гаварыў калі-небудзь? Прызнаю за кожным права мець свае ўласныя погляды, пераканані. Калі вы пішаце не так, як я лічу, — гэта не значыць, што я вам не давяраю, проста ў вас іншы пункт гледжання.

**— У знакамітых кінафільмах «Ленін у Кастрычніку» і «Ленін у 1918 годзе» правадыра сусветнага пралетарыяту іграў акцёр Шчукін. Выпадкова не ваш сваяк?**

— Не. Дзед па маці — селянін з Талачынскага раёна, дзед па бацьку — селянін з Горкаўскай вобласці. У кіно не здымаліся.

**— Валерый Аляксеевіч, вы беларускую мову вывучылі?**

— Я валодаю мовай, але ж маці спявала мне калыханку па-руску, таму і размаўляю на рускай мове.

**— Як вас выхоўваў бацька?**

— О, рамянём добра даставалася!

**— У юнацтве вы, напэўна, былі хуліганам?**

— Наадварот, вельмі паслухмяным, цацахлопчыкам.

**— Цаца-хлопчыкам?.. Ніколі не біліся?**

— Маці вучыла мяне ўступаць.

**— Вы — уступалі? Цяжка паверыць!**

— Было амаль па Біблії: ударылі па правай шчацэ — падстаўляй левую.

**— Вас часта білі?**

— Так... Але я сваіх дзяцей вучыў змагацца, не здавацца — мяне армія такім зрабіла.

**— Вашы бацькі былі веруючымі?**

— Бацька — не, а маці захоўвала ўсе рэлігійныя святы, хадзіла ў царкву, але для яе гэта было хутчэй рытуалам, чым глыбіннай верай.

**— Вы атэіст?**

— Безумоўна.

**— Вашы дзеці нехрышчоныя?**

— Хрышчоныя.

**— Як — у атэіста?.. Чаму вас з партыі не выгналі?**

— А я ў партыю ўступаў ужо пасля таго, як дзяцей пахрысцілі, у 1971 годзе, ужо старшым лейтэнантам. Прынамсі, у партыю я ўступіў з другой спробы. Першы раз, яшчэ ў вучылішчы, мяне не прынялі: я ніколі не баяўся выказваць сваё меркаванне, а ў тыя гады было прынята ў курылцы гаварыць адно, а на сходзе — другое. Я гаварыў і ў курылцы, і на сходзе адно і тое ж, за што, вядома, даставалася. Таварышы выраашылі, што быць членам партыі я не дастойны.

**— Як вы прафесію выбіралі?**

— У сям'і было чацвёра дзяцей, цяжка даводзілася, ад голаду страчваў прытомнасць... Калі споўнілася 15 гадоў, бацька знайшоў работу: па 8 гадзін працаваў на Мінскім заводзе будзяталлеў слесарам. Ледзь нагрузка большая — і непрытомнасць...

**— І тады вы вырашылі пайсці туды, дзе болей плацяць?**

— Нічога падобнага! Пачаліся канфлікты з бацькамі: я чалавек свабодалюбівы, а яны мяне абмяжоўвалі, спрабуючы ўказваць, калі прыйсці, куды не хадзіць, — я гэтага не люблю... У 18 гадоў, калі выклікалі ў ваенкамат, пачуў: «Радзіме трэба, каб вы пайшлі ў ваенные вучылішча, ведь спіс — выбірайце». А я быў гатовы сысці з дому хоць на цаліну, хоць куды заўгодна... Флот мне падабаўся, выхадцам з «жалязякамі» даспадобы — выбраў Вышэйшае інжынернае ваенна-марское вучылішча ў г. Пушкіне Ленінградскай вобласці.

**— Якое месца ў вашым жыцці займаюць грошы?**

— Ніякага, яны мне патрэбны пастолькі, паколькі.

**— Афіцэры зараблялі добра, маглі і не думаць пра грошы. Купілі аўтамабіль...**

— Усё жыццё жыву на зарплату. А на зарплату яшчэ ніхто аўтамабіль не купіў.

**— Ваша жонка калі-небудзь працавала?**

— Яна і зараз працуе — медсястрой.

**— Дзе вы пазнаёміліся?**

— На танцах у вучылішчы. Зразумелае жаданне дзяўчыны выйсці замуж за афіцэра — дзе ж яшчэ можна пазнаёміцца, як не на танцах?!. Таму, адпраўляючы сваю дачку з Уладзівастока ў Мінск, сказаў: толькі не хадзі ў ваенных вучылішчы на танцы. Ты ж ведаеш, як жывуць афіцэры... Дачка выйшла замуж за электразварышчыка.

Дачка і сын жывуць у Мінску, сын — сталяр, дачка зараз не працуе: нарадзіла трэцяе дзіця.

**— Трэцяе?!**

— Дык у мяне сямёра ўнукаў! Чацвёра ў сына і трое ў дачкі. Я самы багаты дзядуля ў ВС, канкурэнтаў па гэтай частцы няма.

**— Вы даўно звольніліся ў запас?**

— У 1987 годзе, капітанам другога рангу. Армейскі аналаг — падпалкоўнік, але мы, флоцкія, вельмі не любім, калі да нас звяртаюцца з армейскімі званнямі.

**— Чаму?**

— Традыцыя такая. На флатах усіх краін свету званні адрозніваюцца ад армейскіх — гэта звязана з асаблівасцямі службы.

Дык вось, звольніўшыся з Узброеных Сіл, пайшоў працаваць трактарыстам, дакладней — машыністам крана трубаўкладчыка на будаўніцтве газаправода. Працаваў па ўсяму Саюзу, апошнія тры гады — на будаўніцтве газаправода ў Полацку.

**— Вы жывяце ў Мінску?**

— Чаму ў Мінску, я дэпутат ад Полацка, там і жыву — вось пашпарт, пагледзіце прапіску... Калі палачане выбралі мяне сваім дэпутатам, я выпісаўся з Мінска і прапісаўся ў Полацку. Цяпер жыву ў гасцініцы «Мінск».

**— А жонка?**

— Жыве з сынам.

**— Прабачце, вы ў разводзе?**

— Барані бог, навошта!.. Разумееце, афіцэры ваенна-марскога флоту жывуць па асаблівых правілах, адно з якіх: марак у моры — дома, на беразе — у гасцях. Усё жыццё я быў «прыходзячы» муж.

**— Адкуль вы прыходзілі?**

— З мора, са службы. За год набіралася максімум 90 дзён, калі бываў дома. І пазней вельмі кароткі час штодзень жыў дома і, дарэчы, мне гэта не спадабалася: відаць, ужо ўвайшло ў звычку... Калі жанішся, паставіў умову: для мяне заўсёды галоўнай справай будуць «самалёты», а дзяўчаты — потым. Для мяне сям'я, жонка, дзеці, унукі ніколі не былі і не будуць на першым месцы... Дом адцягвае ад работы. Ледзь звечарэе — жонка звоніць: «Трэба спаць класціся, а ты яшчэ не накормлены...» А ў 21 гадзіну пачынаецца самая плённая работа: днём спакойна пасядзець за камп'ютэрам, штосьці запісаць, абдумаць немагчыма — ці з самага ранку, ці ўвечары. А калі раз-пораз глядзіш на гадзіннік — якая работа?! Я працую колькі хачу — да 11, да 12 вечара.

**— Дык вы ўвесь час у гасцініцы?**

— Хаджу, канешне, дахаты... па патрэбнасці (смяецца).

**— Жонка не раўнуе?**

— Можа, і раўнуе, але прад'явіць прэтэнзіі ў яе няма падстаў.

**— А вы не раўнуеце?**

— Адвучыў сябе яшчэ ў першыя гады нашага сямейнага жыцця — прымусіў сябе пазбавіцца ад гэтага: я кірую сваімі пачуццямі.

**— Вы маеце поспех у жанчын?**

— Так, жанчынам я падабаюся.

**— Дзе вы праводзілі водпуск?**

— Я не хаджу ў водпуск і пакуль зусім не збіраюся.

**— Як адпачываеце?**

— А што гэта такое?

**— Калі гаварыць аб будучым краіны, вы — песіміст?**

— Давайце вызначымся ў тэрмінах. Наша краіна — гэта Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік. Я — грамадзянін СССР. Пагледзіце пашпарт... Так, зруйнавалі Саюз, яго няма. Але ні вас, ні мяне ніхто не пазбаўляў грамадзянства СССР. Зараз ва ўсіх нас двайное грамадзянства — СССР і Рэспублікі Беларусь. Дарэчы, так было і раней...

Як камуніст, я адстойваю сацыялізм. Прыкладаю ўсе намаганні, каб памяняць цяперашні капіталізм на сацыялізм. Каб я быў песімістам, сядзеў бы спакойна на лавачцы... Я аптыміст і актыўна змагаюся, таму што разлічваю на станоўчы вынік. Пакуль, на жаль, пахваліцца няма чым: увошу парцыю, на мой погляд, сацыялістычныя, і атрымліваю 17 галасоў. Кропля ў моры! Але ўсё роўна змагаюся.

**— У якой ступені чалавек можа дазволіць сабе ісці на кампрамісы?**

— Глездзячы дзеля чаго. Асабіста я іду на кампрамісы... Уважліва прааналізаваў, чаму так адбылося з нашай краінай, з сацыялізмам увогуле: нашы папярэднікі стараліся чалавека прымусіць быць шчаслівым. Аднак насільна чалавека нельга зрабіць шчаслівым... А ведаеце, што мяне падштурхнула задумацца над усім гэтым? Казкі. Расказваў іх дзецям, потым унукам. Напрыклад, Кашчэй Бессмяротны, валодаючы гіпнозам і чарадзействам, мог прымусіць Васілісу скакаць пад яго дудку. Але ж яму патрэбна было не гэта — таму ён і старауся заваяваць яе душу.

**— Валерый Аляксеевіч, многія былі здзіўлены, што вы, камуніст-максіміліст, аказаліся на баку «змоўшчыкаў з БНФ»?**

— Я — разам з БНФ? Калі гэта было?

**— Калі камуністы падпісалі агульны з іншымі партыямі дакумент...**

— Вы не з таго боку глядзіце! Я — прафесіянальны ваенны. У арміі камандзір прымае рашэнне — яно можа быць памылковым, але не выканаць загад нельга. Зараз ідзе палітычная барацьба, таксама патрэбна цэнтралізацыя. Так, камандзір Калякін не прызначаны нікім, ён выбраны, і наша права — перавыбраць яго ў любы момант. Але пакуль яго не перавыбралі, любое прынятае ім рашэнне павінна выконвацца.

**— Вы не баіцеся стаць марыянеткай у руках партыйнай каманды?**

— Каго вы адносіце да партыйнай каманды? Хачу ўдакладніць!

**— Вы — член партыі...**

— ...і член ЦК.

**— Ваша партыя на мяжы расколу...**

— Вось тут я з вамі не пагаджуся. Раскол бывае перш за ўсё па ідэйных меркаваннях: на XXVIII з'ездзе КПСС быў раскол — розныя платформы (дэмакратычная, марксісцкая і г. д.), розныя праграмныя дакументы. У нас — не, усе камуністы маюць адну праграму, адзін статут. Але тактыка дзеянняў у любой партыі вызначаецца кіраўнікамі... Вернемся да вашага пытання — ці не стану марыянеткай? Не стану, бо ў партыю я ўступаў свядома і свядома выступаю за партыйную дысцыпліну... Дарэчы, згаданы вамі зварот Калякін падпісаў ад імя партыі ці ЦК, а ад свайго ўласнага імя. Многія абурыў, на мой погляд, не сам факт падпісання, а што подпіс Калякіна быў апошнім, пасля подпісу Хадыкі. Гавару гэта як псіхолаг.

**— Многія сродкі масавай інфармацыі цытуюць словы, сказаныя Новікавым на пасяджэнні «круглага стала»: «Если вы хотите две коммунистические партии, пожалуйста, получите партию коммунистов-дедов, которые уже не понимают, что делают». І яшчэ: «Идет нормальный, здоровый процесс избавления партии от отребья». Вы маглі б тое самае сказаць?**

— Мы з Новікавым крыху адрозніваемся: я сказаў бы тое ж, але іншымі словамі: больш мякка.

**— Усіх нязгодных — скінуць з карабля сучаснасці?**

— Не так! Хто не згодзен, павінен адысці — гэта розныя рэчы.

**— Але У. І. Ленін папярэджваў: «Если вы будете гнать всех не особенно послушных, то вы рискуете остаться в окружении дисциплинированных дураков и партию загубите тогда наверняка».**

— А хто гоніць? Ніхто не гоніць! Трагедыя кампартыі ў тым, што яна была адзінай і ў яе ішлі ўсе, хто хацеў займацца палітычнай дзейнасцю. Калі партыю забаранілі, мы, канешне, збіралі ўсіх, хто падтрымліваў ідэю — як у 41-м годзе збіралі разрозненых адзіночак, — але з такой камандай ваяваць нельга, павінен быць згуртаваны калектыў. Пасля перыяду «разброду і хістання» мы зрабілі больш жорсткім Статут (дарэчы, я адзін з аўтараў). Мы нікога сілком не цягнем у партыю.

**— Некаторыя сцвярджаюць, што ў краіне назіраецца «рэвалюцыйная сітуацыя», апісаная Леніным. Рэвалюцыя — непазбежная?**

— Я супраць усялякіх рэвалюцый!

**— Якое ваша любімае свята?**

— Ніякіх не люблю. Разумееце, у арміі ў мяне выпрацавалася агіда да святаў: гэта ж двайная нагрузка — каб ніякіх ЧП, каб ніхто не напіўся і г. д.

**— З напояў вы аддаяце перавагу моцным?**

— Мы з вамі п'ем каву — гэта моцны напой ці не?

**— Гэта моцная кава, але без градусаў.**

— Адзін час я кінуў піць і дзесяць гадоў грама ў рот не браў. Я ўпарты чалавек, цяжка прымаю рашэнні, але калі скажу — то ўсё. Памятаеце у Някрасава: «Мужик — что бык, втемяшится...» Калі ажаніўся, жонка: кінь курыць! Ну, чаго не паабяцаеш маладой жонцы! Паабяцаў — і ўжо 32 гады не куру... У якасці дэпутата хаджу на афіцыйныя прыёмы — што, газіроўку піць?..

**— Ваша мэта — камунізм, але што вы ўкладваеце ў гэта паняцце?**

— Грамадства, у якім няма дзяржавы, — самакіравальнае грамадства.

**— Утопія!..**

— Калі б яшчэ 10 гадоў назад мне сказалі, што будзе пастаўлена пытанне аб усеагульным разбраенні, я палічыў бы гэта утопіяй. А цяпер мы разумеем, што на зямлі ісцуе столькі зброі, што мы самі сябе можам знішчыць. Утопія?..

**— Вы гатовы пакутаваць за ідэю?**

— А навошта за яе пакутаваць? Ідэю трэба адстойваць. Гэта рэлігія абяцае: чалавек, пакутуючы, ачышчае сваю душу і на тым свеце трапляе ў рай. Я атэіст і змагаюся за ідэю.

**— У спрэчцы моцнага і слабага на чым вы баку?**

— Несур'ёзнае пытанне! Трэба быць на баку справядлівасці.

*Гутарыла Таццяна ПАДАЛЯК.*
*Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.*

# КІРМАШ

**ШТОТЫДНЁВЫ РЭКЛАМНЫ ВЫПУСК** **№ 34 (53)**




## ПРАДАЕЦЦА:

◆ у г. Беразіно 3-пакаёвая кватэра, пл. 59,9, жыл. 41,4, кухня — 7,0; 2 паверх; 2 лоджыі, магчымы інш. варыянты. Тэл. 54-6-59;

◆ дом (можна пад знос), 15х6, цана дагаворная. Мінская вобл., Вілейскі р-н, в. Сцешыцы. Клемантовічы;

◆ стары дом пад знос. Зусім танна. Звяртацца на адрас: 225554, Брэсцкая вобл., Столінскі раён, в. Карошчы, зав. Школьны, дом 24. Вількоцкая Н. І.;

◆ дамы ў в. Клідзяняты (2 км ад Смаргоні). Магчымы абмен на кватэру (з даплатай) у г. Смаргоні. Купім трактар, мотаблок 2-цыліндравы, 3-калёсны. Тэл. у Смаргоні 2-15-67;

◆ дом з гаспадарчымі пабудовамі: у в.Аўдзеевічы Навагрудскага р-на. Тэл. у Воранаве 78-2-24;

◆ драўляны дом у добрым стане, танна, пад знос або на месцы, з гаспадарчымі пабудовамі, садам, агародам у в. Дуброва Петрыкаўскага р-на. Тэл. у Мазыры 3-47-08, вечарам;

◆ таргговы кіёск (20 млн. рублёў), касавы апарат (8 млн. руб). Тэл. у Оршы (8-02161) 20-5-36;

◆ тэрмінова МАЗ-55-49 (самазвал) 1986 г. выпуску. Тэл. суседскі (8-210) 71-3-91;

◆ дом у р-не г. Шчучына з усімі камунальнымі выгодамі. Маецца хлеў, гараж, зямельны ўчастак, тэлефон. Тэл. у Шчучыне 25-2-67; у г. Лідзе 2-86-05;

◆ прычэп да УАЗ-31512 за 400 $, тэнт, інш. запчасткі. Тэл. у Воранаве: 21994, або, вечарам 22494;

◆ восенню і вясной прадам пасадачны матэрыял гладыёлусаў розных гатункаў і афарбоўкі. Тэл. 2-13-04 у г. п. Зэльва Гродзенскай вобл.;

◆ дом драўляны 67 кв.м. з усімі выгодамі і надворнымі пабудовамі. Сад 8,5 сот., магчымы абмен на кватэру ў Мінску. Тэл. (8-02339)2-29-12;

◆ УАЗ-452 (мікрааўтобус), салон-люкс, пасля рамонту ў 1996 г. Слуцк (8-295) 22-1-98;

◆ катэдж недабудаваны (засталіся ўнутраныя работы) у г. Жодзіна, (9,5х13, 8 сотак). Тэл. (8-01775) 4-28-14;

◆ дом з усімі гаспадарчымі пабудовамі, участак 15 сотак, склеп, калонка, тэлефон; в. Грабаўка, вул. Леніна, 52, тэл. (0232) 915-227;

◆ каза, за дзень дае 3 л малака. Звяртацца на адрас: Гродзенская вобл., Лідскі раён, в. Ваенполле;

◆ 2-пакаёвая кватэра, 40 кв. м, без выгод у драўляным доме ў в. Кукушкіна, каля Чэрвеня, з гаспадарчымі пабудовамі, участак 6 сотак, побач лес, вадаём;

◆ 4-пакаёвая кватэра ў Валожыне. Тэл. (8-272) 55-1-86.

◆ каляска інвалідная новая, складная, запчасткі. 220100, Мінск, Багдановіча, 74-12;

◆ бульба да 10 т. Мінская вобл., Слуцкі р-н, тэл. (8-295) 76-2-23;

◆ тэрмінова зруб 9х9, дошкі неабразныя, сталярка, лес абпілаваны. Тэл. у г. Беразіно (8-215) 59-4-48.

◆ тэрмінова танна белыя парасяты.
Тэл. у Лідзе 3-45-63. Ала.



## ВІНШУЕМ!

*Дарагую мамачку і бабулю **Марыю Паўлаўну АРЦЕЕВУ** з вёскі Вясёлае Капыльскага раёна з 65-гадовым юбілеем.*

*Мы шчыра дзякуем табе, наша любая, за твае працавітыя рукі, залатое сэрца, за клопат і любоў, за ўсё, што ты для нас зрабіла і працягваеш рабіць, і жадаем яшчэ шмат гадоў сустракаць нас на парозе бацькоўскага дома сваёй цёплай усмешкай!*

***Твае дзеці і ўнукі.***

## РОЗНАЕ

■ Вышлем сачыненні Лермантава ў 2 тамах, пласцінку Р. Ларэці. Ад вас канверт. 223310, РБ, Беразіно, п/с 681034.

■ Работу на дом без спецнавыкаў. 2 млн. у м-ц. Ад вас 2 канверты, купон «Звязды». 223310, РБ, Беразіно, п/с 681034.

■ Вышлю практычны дапаможнік для «сляпога» 10-пальцавага метаду машынапісу. 223310, РБ, Беразіно.

■ Вышлю сухі корань жэньшэню, 1 г — 2500 руб., насенне чумізы (проса галоўчатага), 1 пакет — 5000 руб. Адрас: Гродзенская вобл., Слонімскі р-н, п/а Высацк. Жукоўскі І. Ул.

■ Маецца глюкаметр для вымярэння цукру ў крыві, нямецкай вытворчасці. Тэл. (02251) 30505, г. Бабруйск.

■ Мяняецца 2-пакаёвая кааператыўная прыватызаваная кватэра ў Гомелі на кватэру ў Мінску. Тэл. у Мінску 227-25-92; 227-14-12 з 9.00 да 18.00.

■ Згубленае пасведчанне аб праве на льготы № АА-181344, выдадзенае 5.09.1986 г. на імя Курчэні Уладзіміра Андрэевіча, лічыць несапраўдным.



## ВІНШУЕМ!

*Горача віншуем з днём нараджэння **Алу Іосіфаўну Кохан** з в. Александрына Лагойскага раёна.*
*Няхай тваё здароўе будзе моцным, а жыццё радасным і шчаслівым.*

**Любячыя цябе Стальмаховы з Мінска.**

*Віншуем з днём нараджэння **Марыю Міхайлаўну Кульша** з г. Мінска. Жадаем здароўя, шчасця, усяго найлепшага.*

**Сям'я Філіпчыкаў з в. Забалатнікі Клецкага р-на.**

*Віншуем з юбілеем **Галіну Дзмітрыеўну Паўлоўскую!***
Жадаем здароўя, святла і цяпла,
Любоўю хай поўніцца хата,
Хай бокам цябе абыходзіць бяда,
А радасці будзе багата.

**Муж, маці, дачка, зяць і сваты.**

*Сардэчна віншуем **Таццяну Васільеўну Чапурнову** з днём нараджэння. Жадаем быць заўсёды прыгожай, добрай і простай, заўсёды прыветлівай і мілай, заўжды любімай, дарагой.*

***Мама, тата, сёстры.***

*Віншуем з днём нараджэння (25 гадоў) і са шлюбам **Людмілу і Сяргея Цімашэнкаў.** Жадаем здароўя і доўгіх гадоў жыцця.*

***Тата, мама, брат, сястра; в. Вербавічы.***

***Унучак Алёну** са Слуцка і **Люду з Выганашчаў** віншую з днём нараджэння і мацярынствам. Здароўя і шчасця вам і праўнучкам Палінам.*

***Дзед М. Панасевіч.***

*Віншуем мілую матулю **Наталлю Васільеўну** з днём нараджэння! Жадаем шчасця і здароўя!*

***Віка і Юля.***



| Наименование | Цена | Организация | Телефон |
|---|---|---|---|

**ПРЕДЛАГАЕМ:**

Двигатели М-2141, М-412, ГАЗ-24, ГАЗ-53 и др. з/ч. Тел. (0222)-25-00-00.



**ЗВЯЗДА**

**Купон для бясплатнай прыватнай аб'явы**
**для тых, хто падпісаўся на нашу газету.**
**Выражце, запоўніце разборліва і вышліце на адрас рэдакцыі**


Звесткі не для друку: ваша прозвішча, адрас, хатні тэлефон.
Адрас рэдакцыі: 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 А.
Тэлефон для даведак 68-28-77.

# МАКСІМ ТАНК УСПАМІНАЕ, РАЗВАЖАЕ, РАІЦЬ

## З невядомых дзённікаў паэта 1941—1994 гг.

**Кожнае восені 17 верасня — у дзень нараджэння Максіма Танка, што знамянальна супаў з Днём уз'яднання Беларусі, — мы сустракаліся на старонках прэсы з падборкамі яго новых мудрых і таленавітых твораў. Так было і летась, хоць народны паэт і не дажыў да дня свайго нараджэння нейкія два месяцы. Ёсць магчымасць не перапыніць гэтую традыцыю і сёлета: перад табою, дарагі чытач, фрагменты з невядомага дагэтуль твора М. Танка — ягонага дзённіка 1941—1994 гг.**

**М. Танк пачаў рабіць занатоўкі «для памяці» яшчэ ў юнацкія гады. 1970 г. яго даваенны дзённік пад назваю «Лісткі календара» ўбачыў свет, выклікашы ўсеагульнае захапленне. Тое, што пісьменнік і далей запаўняе свае «лісткі календара», даследчыкі ягонай творчасці здагадваліся, але пэўна не ведалі. Помніцца, на маё пытанне: «Ці ведзяце Вы свой дзённік цяпер? — М. Танк адказаў неадназначна, па сутнасці ўхіліўся ад адказу. Сёння можна з пэўнасцю сцвярджаць: усе ваенныя і пасляваенныя гады аўтар «Лісткоў календара» сістэматычна, хоць і не штодзённа, вёў дзённікавыя запісы, у якіх не толькі занатоўваў важнейшыя падзеі асабістага і грамадскага жыцця, але і даваў ім часта тую ці іншую ацэнку, разважаў пра розныя праблемы, успамінаў сваё мінулае і г. д. Як падкрэсліў сам пясняр з Нарачы, дзённік быў патрэбны яму для працы, ён — «не магільнік думак і пачуццяў, куды рэдка заглядае і сам пісьманнік, гэта — шлях з верставымі слупамі-паказальнікамі» (запіс ад 4.IX.1951). Пад канец жыцця М. Танк стаў пераглядаць свае дзённікавыя запісы, перадрукоўваць — відаць, рыхтаваў іх да публікацыі. На жаль, убачыць іх у друку ён ужо не змог...**

**З усяго корпуса дзённікавых запісаў (а гэта — каля 30 друкаваных аркушаў) выбрана, сістэматызавана і пададзена тут толькі невялічкая частка. Яна датычыцца адной з трох праблем: біяграфіі паэта, разважанняў яго пра ўзаемасувязь мастацтва і жыцця і роздуму над лёсам роднай мовы. Таксім Танк успамінае, разважае, раіць... Прыслухаемся ж да Песняра!**

### МАСТАЦТВА І ЖЫЦЦЁ

Беларускі народ выпакутаваў сваіх паэтаў, мастакоў — вялікіх і малых. Усе яны нараджаліся пад трывожнымі зорамі. І нам заўсёды нешта пагражала *(15.XII.1962)*.

Мы — людзі, якія мелі айчыну, але доўга нам забаранялі вымавіць яе імя; мелі мову, але саромеліся назваць сваёй; мелі гісторыю, але баяліся прызнацца, што яна — наша *(2.IX.1976)*.

Ізноў узяўся за фальклор, які ўратаваў ад забыцця і нашу мову, і мінуўшчыну, а яна — нашу будучыню *(27.VIII.1976)*.

Думаю пра Я. Купалу. Калі ўявіць, што наша зямля — велізарны арган, дык ніхто з яе не выдабыў столькі чаруючых гукаў, як ён *(2.II.1977)*.

Шлях мой у літаратуру быў такі складаны, які і не сніўся розным даследчыкам *(6.VIII.1977)*.

Ёсць горкая доля праўды ў словах М. Клобскай, што народ, які не можа смяяцца з вялікіх, з'яўляецца малым народам *(19.III.1978)*.

Колькі ў нас загінула гістарычных помнікаў! Не ўмеем даражыць сваёй спадчынай і беражна да яе адносіцца. А гэта пагражае нам застацца без роду, без племені *(12.VII.1978)*.

З жалем думаю, як нам, беларусам, не хапае нацыянальнай годнасці і самасвядомасці. Кажуць, гісторыя вучыць. Відаць, мы былі самымі адсталымі вучнямі, бо да гэтага часу нічому не навучыліся *(10.X.1970)*.

Многім здаецца, што лёс паэзіі вырашаецца ў Мінску, на Парнасе. Прызнацца, самыя неверагодныя задумы ў мяне зараджаліся ў маёй роднай Пількаўшчыне. У літаратурных сталіцах толькі іх правяраў, прымяраў, як вопратку на кірмашы *(23.11.1975)*.

Спрадвечная наша трагедыя. Больш дужыя суседзі вербавалі і сілай змушалі пераходзіць на іх старану інтэлігенцыю і багацейшую праслойку народа, надзяляючы іх рознымі прывілеямі, пасадамі, дабрабытам, магчымасцямі выхаду ў шырокі свет. Цікава, што ў народнай творчасці гэта не знайшло такога шырокага адлюстравання, як праблемы сацыяльныя *(2.IX.1976)*.

Нацыянальны нігілізм многіх з нас зрабіў калекамі, як пошасць, на працягу стагоддзяў апустошаючы культуру беларускага народа *(30.V.1982)*.

Кажуць, няма незаменных людзей. Магчыма. Але не ў мастацтве *(29.I.1984)*.

Не хапае ў нас аўтаіроніі ў адносінах да сябе і да сваёй гістрыі *(8.IV.1985)*.

Стомлены вярнуўся з урачыстага вечара. Стомлены і фізічна, і маральна. Як арганізатары канцэрта маглі не ўключыць



*«Прыехаў В. Рагойша. З'ездзілі з ім на Гатаўскі бераг Нарачы». (8.VII 1979).*

***НА ЗДЫМКУ: Максім Танк і Вячаслаў Рагойша на беразе Нарачы.***

у сваю праграму ніводнай беларускай песні, ніводнага верша? *(7.V.1985)*.

Відаць, месца нараджэння яшчэ не акрэслівае нацыянальную прыналежнасць мастака. Міцкевіч нарадзіўся ў Беларусі, Славацкі і Гогаль — на Украіне, Конрад — у Польшчы... *(21.XII.1985)*.

Зараз узяліся за спадчыну. Гэта добра. Але пад гэту чарговую кампанію падымаем усякую ўсячыну, прыпісваючы ёй значэнне, якога яна не мела і мець не будзе *(20.VIII.1986)*.

Як зубы праразаюцца вершы. Ныюць. Не даюць спакою *(31.XII.1986)*.

Чамусьці перастала прыходзіць беластоцкая «Ніва». Затое спраўна працуе тэлефонны падслух *(29.I.1987)*.

Гісторыя нагадвае склад розных запасных частак, з якога кожны цягне патрэбную для сябе дэталь *(8.V.1987)*.

Не знаю, ці дачакаемся калі праўдзівай гісторыі, пакуль не паднімем архіў. А пакуль — адны міфы ды скажэнне праўды. Як сляпыя, блукаем у пошуках сваёй мінуўшчыны, у вочы якой нават страшна заглянуць *(25.VIII.1988)*.

Зараз амаль усе ўзяліся пісаць мемуары. Відаць, праўда, што пісьменнік без мемуараў, як пёс без хваста *(11.IV.1990)*. Да таго ж у нас усё неяк трагічна складваецца. Асабліва з беларусізацыяй. З часоў патрыярха (1591) топчамся на месцы *(1.V.1992)*.

Страшна становіцца за будучыню Беларусі, нашых дзяцей і ўнукаў *(9.VI.1992)*.

Цяжка цяпер разабрацца ў гісторыі, яе пераважна пісалі нашы пераможцы. Настала пара паслухаць, што скажуць былыя падняволеныя народы пра сябе і пра сваіх былых апекуноў *(17.XI.1993)*.

Наш век — век вызваленчай барацьбы і выхаду на арэну гісторыі мільёнаў прыгнечаных і заняволеных каланіяльных народаў. І яны возьмуць на сваё адраджэнне і сваю гісторыю, і мову, і нацыянальнае мастацтва, як бралі і тыя, для каго гэта даўно пройдзены этап *(23.II.1994)*.

Цікава, што ў нас ніхто да гэтага часу не займаўся такой з'явай, як дэкаланізацыя і ажыўленне нацыянальна-вызваленчых рухаў на свеце. А гураган іх нарастаў даўно і асабліва я гэта адчуў яшчэ на сесіі ААН, прысвечанай гэтаму пытанню. Мы тады ратавалі за афрыканцаў (нат я выступаў), азіятаў. І я, помню, пытаў сам сябе: а як у нас? Зразумела, што становішча з мовай у Беларусі насцярожвала не толькі нас, але і нашых суседзяў. Прыкладам, што сацыялізм збіўся з дарогі: адно прапаведуе, а робіць зусім другое, робіць тое, што ў нас рабілі польскія, а потым — царскія, а зараз — свае «змагары» за дружбу народаў *(14.VII.1994)*.

З польскіх газет даведаўся, што на Захадзе выйшаў падручнік гісторыі для школ, у якім амаль нічога не сказана пра Беларусь і пра іншыя еўрапейскія краіны, многіх славутасцяў. А мы, упаўшы ў свой рамантызм, думаем: якія мы славутыя, вядомыя ўсяму свету, што без нас... і г. д. *(17.X.1994)*.

Шкада, што не засталося ў мяне часу на пераацэнку сваіх твораў і твораў усёй нашай літаратуры, на што трэба было б мець у запасе яшчэ адно жыццё *(26.X.1994)*.

### МОВА

Памыляецца нямецкі мовазнаўца Аўгуст Шляйхер, што мова нават адарванай ад штодзённага жыцця можа жыць. Гэтаму пярэчаць факты. Зараз наша беларуская мова, жыцця крыніцы якой перакрыты іншамоўнай школай, прэсай, радыё, прапагандай і агітацыяй, — усё больш і больш адступае перад экспансіямі суседніх дзяржаўных моў, губляе свае пазіцыі і знікае. І гэта — у той час, калі вызваляюцца народы ад імперыялістычнага прыгнёту і адраджаюць сваю мову і культуру. А ў нас многіх і сёння абвіняюць у нацыяналізме, тады калі стан беларускай мовы і культуры не можа не насцярожваць. Карабель, ватэрлінія якога на вачах ідзе ўглыб, патанае. А мы — «дзеці набата» (Рэнэ Шар) — маўчым *(2.II.1954)*.

Сёлета з падпіскай на «Полымя» крыху лепш і перавалілі за шэсць тысяч. Усё роўна для нашай рэспублікі — тыраж мізэрны. Усе нашы кіраўнікі тлумачаць гэта рознымі прычынамі, хоць ведаюць, што галоўнае — у катастрафічным скарачэнні беларускіх школ і ў ненармальным становішчы з беларускай мовай у рэспубліцы *(29.XII.1965)*.

У развіцці сусветнай культуры нельга не ўлічваць культур нават самых малых народаў. І нельга вырашаць такія складаныя праблемы толькі пры дапамозе галасавання. Тут патрэбны і розум, якога нам часта не хапае. Так, напрыклад, кожны народ лічыць, што яго мова самая прыгожая. А я, помню, чытаў у нейкім польскім даваенным часопісе, што на парыжскім конкурсе прыгажосці моў эстонская заняла першае месца *(20.III.1969)*.

Зноў атрымаў некалькі анкет. У адной з іх пытае аўтар: «Як гляджу на беларускую мову?» Я не спецыяліст, не вучоны. Мову сваю вывучаў за плугам і касой, у бацькоўскай хаце, на кірмашах, на фэстах, на вяселлях і хрэсьбінах, на бясконцых сваіх вандроўках па родным краю. Да мовы падыходзіў з эмацыянальнай стараны, з слухавой, зрокавай. І таму магу толькі сказаць як пісьменнік, што яе люблю. І хоць у роспачы за сённяшні яе стан, веру ў яе будучыню *(21.XI.1979)*.

Адпісаў на пісьмо настаўніка А. М. Белакоза. Райфо не дазваляе школам выпісваць беларускія часопісы, газеты і падпісвацца на беларускую энцыклапедыю. Што за ідыёцтва! А потым абвіняюць нас, што падае колькасць падпісчыкаў на беларускія выданні *(10.XI.1968)*.

Ва ўсіх нас балючай стрэмкай у сэрцы сядзіць лёс роднай мовы. Пытанне гэта мяне непакоіць даўно, яшчэ з тых год, калі пачынаў пісаць свае першыя вершы і калі гэтыя вершы ў многіх выклікалі здзіўленне: — Глядзіце, ён піша на беларускай мове! Відаць, каб на кітайскай — усё было б нармальна *(6.IV.1970)*.

Ю. Хапалаеў прыслаў вялікую падборку маіх вершаў, перакладзеных ім на лакскую мову і надрукаваных у часопісе «Дустыну». Калі ўлічыць, што на лакскай мове гавораць крыху больш як 50 тысяч чалавек, дык нельга не здзівіцца, што тыраж часопіса — 2350 экз. Вось як людзі ўмеюць даражыць сваёй роднай мовай! А мы, пры дзесяцімільённым насельніцтве рэспублікі, топчамся на месцы са сваімі мізэрнымі тыражамі беларускіх газет і часопісаў *(4.III.1984)*.

Зараз, калі менш і менш ужываецца ў быту беларуская мова, слоўнікі, якія ў нас выдаюцца, нагадваюць помнікі на пагосце, якія зарастаюць травой. Гаварыў аб гэтым у ЦК. І. І. Антановіч раіць схадзіць да Слюнькова, бо нельга пусціць на самацёк выкіданне ў школах беларускай мовы, што адбіваецца і на тыражах нашых кніг, часопісаў, газет. Страта культуры любога народа — страта агульная. Трэба схадзіць... Хоць я ўжо зняверыўся ў выніках гэтага хаджэння па муках *(I.V.1986)*.

Войны, няспынная міграцыя (Усход—Захад, горад—вёска) страшэнна засмецілі нашу мову. А калі да гэтага дадаць і слабае яе вывучэнне ў школах, абыякавае стаўленне да яе газет, радыё, устаноў ад самых ніжэйшых да самых вышэйшых, не прыходзіцца і дзівіцца, што яна ўсё больш і больш губляе свае непаўторныя якасці, мастацкія нормы, уласцівыя ёй узоры *(13.VII.1986)*.

Вярнуўся з сустрэчы з кіраўнікамі нашай рэспублікі. Абмяркоўвалі розныя справы. Амаль усе гаварылі аб ненармальным становішчы з беларускай мовай у рэспубліцы. Відаць, слушна зазначыў В. Быкаў, што вельмі далёка зайшлі ў нас нігілізм і нешанаванне яе. І ён ужо не верыць, каб нешта тут можна было зрабіць *(19.V.1987)*

На вачах, разам са смерцю рэк, азёр, лясоў, паветра, памірае і наша беларуская мова. Відаць, усё даб'ём да абуха *(14.VI.1987)*.

Не ведаю, як будзе з нашай мовай. Трэба, каб на ёй загаварылі ўсе, а не толькі пісьменнікі. Каб яна чуваць была ў штодзённым жыцці, бо асіміляцыя, як ракавыя метастазы. Пранікла, закранула самыя глыбінныя яе словатворчыя слаі *(1.1.1988)*.

Вярнуўшыся з Масквы, адразу пайшоў на сустрэчу з гарадскім актывам. Пачуўшы, што я выступаю на беларускай мове, зал пачаў мяне спыняць апладысментамі. Чаго можна чакаць ад такога партактыву? Прыкрае ўражанне засталося ў мяне ад гэтай сустрэчы. Самі забылі і народ адвучылі гаварыць на сваёй мове *(5.V.II.1988)*.

У нас катастрафічнае становішча з беларускай мовай. Усе нашы галашэнні на гэту тэму нікога не цікавяць. Неабходна, каб наша мова стала дзяржаўнай і гэта было ўзаконена ва ўсіх установах, у штодзённым жыцці *(30.V.1988)*.

Мы часта гаворым аб страгічным становішчы беларускай мовы ў рэспубліцы. Але ніколі нас не зразумець людзям, якія самі гэтага не перажылі, людзям, якім не пагражала, як нам поўная асіміляцыя. Шкада, што і нашы першыя творы, якія былі каталізатарамі нацыянальнай самасвядомасці, з'явіліся са спазненнем на цэлае стагоддзе, таму і не змаглі выйсці за свае этнаграфічныя межы *(21.XII.1989)*.

Шкадую цяпер, што я, калі жыў у Вільні, не авалодаў літоўскай мовай. Праўда, тады ўсе з маіх знаёмых пераважна гаварылі на польскай, на якой гаварылі, як на эсперанта, і мае літоўскія сябры... *(7.IV.1988)*.

Аж не хочацца браць у рукі сённяшнія газеты. Трэба так засмеціць мову: мэрыя, стрэс, бестсэлер, трэнд, сэраль, мэнэджэр, спонсар, шоу, кэмпінг, брыфінг, ланч, тэлефакс... Чамусьці ў нас вельмі ахвотна пераймаюць з Захаду не самае лепшае *(7.V.1990)*.

Зараз усе ў нас пішуць хвалебныя оды роднай мове. Шкада толькі, што мала вершаў арыгінальных. Зараз наша мова, якая доўгі час была і ў загоне, і ў прыгоне, патрабуе грунтоўнай рэстаўрацыі і ачышчэння ад розных непатрэбных запазычанняў *(28.X.1993)*.

### БІЯГРАФІЧНАЕ

Відаць, трэба будзе пад'ехаць у сваю Пількаўшчыну і ўгаварыць, каб там нашы не ўпіраліся ўступаць у калгас, бо ўжо званілі мне з абкома, што дзядзька Максіма Танка сарваў сход, на якім нашы хутаране аб'явілі аб сваёй гатоўнасці пайсці ў калгас, калі ў яго пойдуць дзядзька Фадзей і мой бацька. А сход, здаецца, праводзіў адзін з адказных работнікаў маладзечанскага абкома Л. Г. Кляцкоў. Відаць, дома не ўяўляюць, чым усё гэта можа закончыцца *(2.IV.1948)*.

Люблін(...) Вечарам на прыёме выступалі Берут, Булганін, Ракасоўскі. Побач са мной сядзеў стары селянін Коваль Станіслаў(...) На гэтым прыёме, пасля свайго тоста, Булганін неспадзявана расказаў анекдот: падчас тэгеранскай канферэнцыі Сталін, Рузвельт і Чэрчыль ехалі разам і раптам перагарадзіў ім дарогу ішак. І так і сяк прасілі вушастага, каб ён дазволіў праехаць, а той — ні з месца. Тады Сталін кажа: — Дайце я спрабую. Падышоў да асла і нешта шапнуў яму на вуха, і той, задзёршы хвост, даў драла. — Што Вы яму сказалі? — пацікавіліся здзіўленыя Рузвельт і Чэрчыль. — Нічога такога, — адказаў Сталін. — Я яму шапнуў толькі: калі ён не сыдзе з дарогі, я яго запішу ў калгас. Тут нашы разгубленыя дыпламаты пачалі нам тлумачыць, як гэта трэба разумець... *(22.VII.1954)*.

Снілася: бацька клепіць касу. Пытаюся ў яго, нашто ён гэта робіць, калі на сенажаці — снег. А ён адказвае: — Усе раз'ехаліся і забыліся накасіць. Ніхто ў нашай сям'і не быў так, як ён, прывязаны да зямлі, да арбы, да касьбы, да майстэрні і сялянскіх спраў. Усе стараліся вызваліцца ад беспрасветнай цяжкой працы, дамашняга дзедаўскага ладу. Адзін ён застаўся ім верны да канца сваіх дзён *(10.IX.1968)*.

Пісьмо ад Федзі. Піша, што памёр наш швагер Браніслаў Лётка. Страшную трагедыю перажыў ён і ўся наша сям'я. У часе вайны нейкі гмінны службіст загадаў Браніславу адвезці яго ў Куранец, а па дарозе іх абстралялі партызаны, здаецца, з атрада «Народный мститель» і захапілі ў палон гэтага службіста. — Хто цябе падвозіў? — Сэрвач Лётка. Тут жа расправіліся з ім і сем'ямі братоў Лёткаў: забілі сястру Веру і яе двухгадовага сына, забілі швагерку з дзесяцігадовым сынам. А мужыкі іх ацалелі. Былі ў суседняй вёсцы. Калі вярнуліся — засталіся адны папялішчы. Потым браты былі мабілізаваны, прайшлі з баямі праз усю Польшчу, штурмавалі Берлін... *(12.I.1973)*.

Ёсць жа людзі, якім так і карціць некага ачарніць. Колькі пра мяне ходзіць чутак, што я горкі п'яніца, што на дачы нас абслугоўвае некалькі павароў і афіцыянтак. Нат Любаша, капаючыся ў агародзе, чула, як нейкія курортнікі гаварылі: «Бачыце, нат у выхадны дзень домработніцы не даюць адпачыць». А колькі розных небыліц расказваюць пра Купалу, Коласа, Крапіву! Ды амаль пра ўсіх пісьменнікаў, мастакоў... Галоўнае, калі пачынаеш пярэчыць гэтаму — не вераць: «Ну, гэта вы заступаецеся за свайго брата. Мы лепш ведаем». І хоць працэнт п'яніц сярод прадстаўнікоў іншых прафесій — старшынь калгасаў, сельсаветаў і розных чыноўнікаў, якія без паўлітра не паставяць нават пячаткі, — значна больш, слава ідзе пра пісьменнікаў: п'яніцы, гулякі, распуснікі *(7.VII.1975)*.

Вярнуўся з Пленума, які аднагалосна прагаласаваў аб прысуджэнні мне Ленінскай прэміі. Што казаць, гэта самая высокая ўзнагарода ў маім творчым жыцці. І я рад, што атрымаў яе, ні перад кім не адбіваючы паклоны і ні ў кога не выклянчваючы падтрымкі *(14.IV.1978)*.

Прыгадаў наша вяселле з Любашай. Не было ніякіх гасцей. Па дарозе ў рэдакцыю «Вілейскай праўды» зайшлі ў адпаведную ўстанову, распісаліся. Аж шкада, што ніяк не адзначылі мы тады такой важнай падзеі ў нашым жыцці *(10.II.1983)*.

Чытаю страшную хроніку пра годы сталінскіх рэпрэсій, ад якіх загінулі мільёны нявінных людзей. Рэпрэсіі гэтыя не абмінулі і нашу сям'ю. Недзе ляжаць у снежных сібірскіх магілах цётка Крыстына і цётка Поля, адзін з арганізатараў на Алтаі камуны талстоўцаў, муж цёткі Соні — І. Чарняўскі, дзядзька Трахім і забітая ў гады вайны сястра Верачка са сваім двухгадовым сынам. Тое, што ў 1932 г. мяне накіравалі зноў у Заходнюю Беларусь, лічу цудам, бо раней ці пазней загінуў бы, як загінулі многія мае сябры, якія тады пайшлі ў Савецкі Саюз. А я, помню, перад сваім вяртаннем зайздросціў тым, каго накіроўвалі на лесанарыхтоўкі ў Сібір *(27.VII.1988)*.

Кажуць, што джэнтльмены пра грошы не гавораць, але зараз мы, пісьменнікі, апынуліся ў незавідным становішчы. Так, за год працы над вершамі (ад падборкі да падборкі) я атрымаў 150 тысяч рублёў. А трэба ж яшчэ памагчы дзецям, і ўнукам. Мяне яшчэ ратуе пенсія і не плачу за лякарствы, якія каштуюць столькі, што можна было б застацца і голым і галодным. Большая частка народу ўжо каторы год пакутуе за т. зв. рысай беднасці. А галоўнае — ніякай надзеі на нешта лепшае. *(19.X.1994)*.

Позняй ноччу прыехаў з Мядзельшчыны, з літаратурна-песеннай вечарыны, прысвечанай мне, грэшнаму. Перш заехалі ў Пількаўшчыну, дзе надзвычай гасцінна сустрэлі ўсю нашу васьміасобную кампанію Федзя і Маня, пачаставаўшы нас сваімі вясковымі прысмакамі. А потым — у Мядзела... Мясцовыя кіраўнікі і работнікі культуры, трэба сказаць, наладзілі.былі каралеўскі прыём і стол. Мяркую па стану свайго здароўя, гэта было маё развітанне з Нарачу і маімі сябрамі. Па дарозе спыніліся на слабадскім могільніку. Пакланіўся магілам сваіх сяброў, дзядзькоў, суседзяў: «Да хуткай сустрэчы, дарагія!», бо я ў сваім апошнім завяшчанні буду прасіць пахаваць на гэтым каля вас пагорку, усеяным заімшэлымі валунамі, і мяне з Любашай... *(28.X.1994)*.

**P.S. Відаць, ёсць неабходнасць расшыфраваць некаторыя імёны і прозвішчы. М. А. Булганін — колішні Старшыня Савета Міністраў СССР; М. М. Слюнькоў і І. І. Антановіч — адпаведна былыя першы сакратар ЦК КПБ і загадчык аддзела культуры той жа ўстановы; Любаша — Любоў Андрэеўна, жонка паэта; Федзя — Фёдар Іванавіч Скурко, родны брат паэта; Маня — жонка Фёдара Іванавіча. Застаецца дадаць, што ўвесь «Дзённік» М. Танка падрыхтаваны да друку сынам паэта Максімам Яўгенавічам, у сёлетнім верасьнёўскім нумары пачынае друкаваць часопіс «Полымя».**

**Вячаслаў РАГОЙША,**
**старшыня камісіі Саюза пісьменнікаў Беларусі па творачай спадчыне Максіма Танка.**

## ДЗЯЎЧЫНКА-МАЦІ — ВЯЛІКІЯ ПРАБЛЕМЫ

***Тэндэнцыя да таго, што ўсё часцей дзяўчынкі да 16 гадоў робяць аборты прасочваецца ва ўсім свеце. Аднак гэта дрэнным чынам адбіваецца на іх арганізме. Ці не лепш было б нараджаць дзяцей?***

***А.А., Брэст.***

У псіхолагаў, напрыклад, цяжарнасць падлеткаў выклікае ўсё большую занепакоенасць. Як бы там ні было, але дзяўчынкі нараджаюць ні духоўна, ні фізічна да гэтага не падрыхтаванымі (за рэдкім выключэннем). Што ж датычыцца праблем, то яны пачынаюцца ўжо пры нараджэнні дзіцяці. У дзяўчат маладзей за 17 гадоў у 2 разы часцей, чым звычайна, роды адбываюцца заўчасна. З неразвітых немаўлят вырастаюць слабыя, хваравітыя дзеці. У школе сярод іх у два разы больш непаспяваючых вучняў. У разумовым развіцці яны часта адстаюць ад аднагодкаў.

Такім чынам, трэба задумвацца над наступствамі некаторых сваіх крокаў.

## ВАРАТАР — ГАЛЕАДОР

***У залаты для мінскага «Дынама» 1982 год, памятаецца, варатар нашай каманды Міхаіл Вяргеенка, забіў гол у вароты тады яшчэ ленінградскага «Зеніта», праўда, з пенальці... У той час такое было сенсацыяй. Зараз гэта ўжо звычайная рэч. Кажуць, некаторыя галкіперы забіваюць у вароты сваіх калег дзесяткі мячоў...***

**Аляксей МАСЛАЎ, Мінскі раён.**

Так, варатары сёння ўсё часцей ідуць наперад, выручаючы сваіх нападаючых. Футбольныя балельшчыкі добра ведаюць, напрыклад, галеадорскія якасці варатара зборнай Даніі і англійскага «Манчэстэра» Петэра Шмейхеля, які забіў некалькі мячоў у вароты сапернікаў.

Але сапраўдным героем тут лічыцца варатар зборнай Парагвая Хасэ Луіс Чылаверт. Менавіта ён у нядаўнім матчы са зборнай Аргенціны моцным ударам са штрафнога, метраў з трыццаці, забіў гол у адказ і выратаваў сваю каманду ад паражэння. Усяго ж за час свайго выступлення гэты славуты варатар ужо забіў 31 гол — 26 з пенальці і 5 — са штрафных удараў.

## ЯК ЛЯЧЫЦЦА ПРОПАЛІСАМ?

***Займаюся пчалярствам. Ведаю пра лекавыя ўласцівасці пропалісу. Ці не маглі б вы даць рэцэпты мазяў з пропалісу і сказаць, для чаго яны прымяняюцца.***

**Я. ФЕЛІПЕНКА, Горацкі раён.**

Энцыклапедыя народных метадаў лячэння рэкамендуе пропаліс — пчаліны клей для лячэння розных захворванняў.

Шырока прымяняюцца мазі з пропалісу на вазеліне, свіным сале, масле, рыбіным тлушчы.

Гатуюцца мазі проста — аснова (указаная вышэй) даводзіцца да кіпення ў эмаліраванай пасудзіне, знімаецца з агню і туды дабаўляецца дробна нарэзаны пропаліс. Сумесь няспынна размешваецца на працягу 30 хвілін пры тэмпературы 80° С і ў гарачым выглядзе фільтруецца праз адзін слой марлі і разліваецца ў посуд.

10-працэнтная мазь прымяняецца пры апёках і абмарожваннях, пры гемароі, насмарку. 15-працэнтная мазь выкарыстоўваецца для хуткага зажыўлення ран, парэзаў, у тым ліку гнойных, якія доўга не зажываюць, пры ўдарах, пры вуграх, высыпках, язвах слізістых абалонак носа, вуснаў. 20-працэнтная мазь — пры грыбковых захворваннях, пры экземах, фурункулах. 30-40-працэнтная — пры рожах, радыкулітах.

## КАЛІ НА БЕЛАРУСІ З'ЯВІЛІСЯ КАМУНІСТЫ?

***Паважаная рэдакцыя, ці праўда, што ў далёкім мінулым на Беларусі існаваў ордэн манахаў, якіх называлі... камуністамі?***

**Валянцін ГУЗІКАЎ, Бешанковіцкі раён.**

У 1782 годзе, як сведчаць археалагічныя крыніцы, у горадзе Пінску быў узведзены касцёл, які насіў імя Карла Барамея. Ён пабудаваны на рэштках падмурка іншага, больш старажытнага касцёла, які належаў манахам ордэна камуністаў. З місіянерскімі мэтамі стагоддзем раней яны прыбылі на нашы землі з Паўночнай Італіі.

Наогул, у XVII—XVIII стагоддзях на тэрыторыі сучаснай Беларусі існавала вялікая колькасць розных ордэнаў манахаў, францысканцы, бернардзіны, дамініканцы, кармеліты, калегія езуітаў, у іх ліку была і кангрэгацыя камуністаў. Продкі іх і сёння жывуць на берагах Прыпяці і Піны.

## У ВОДПУСКУ ЗА СВОЙ КОШТ — НЕ ХВАРЭЦЬ

***Пайшла ў водпуск без захавання заработнай платы. У час гэтага водпуску захварэла. На рабоце сказалі, што час хваробы ў гэтым выпадку не аплачваецца. Ці правільна гэта?***

**В. КРАЎЦОВА, г. Мінск.**

У адпаведнасці з Палажэннем аб парадку забеспячэння дапамогай па дзяржаўнаму сацыяльнаму страхаванню (зацверджана пастановай СМ СССР і ВЦСПС ад 23.02.84 г. № 191), прадугледжана, што пры часовай непрацаздольнасці ў перыяд водпуску без захавання заработнай платы дапамога не выплачваецца.

Калі непрацаздольнасць працягваецца і пасля заканчэння водпуску без захавання заработнай платы, то дапамога выдаецца з дня, калі работнік павінен быў прыступіць да работы.

Такім чынам, непрацаздольнасць у водпуску за свой кошт не аплачваецца.

## ЯК ЗДАРОЎЕ РЭЙГАНА?

***Здаецца, год назад многія газеты паведамлялі аб тым, што захварэў былы прэзідэнт ЗША Рональд Рэйган, якога я лічу адным з самых бліскучых палітыкаў апошніх дзесяцігоддзяў. Хацелася б ведаць, як сёння ён сябе адчувае?***

**Аляксандр СЯДНЁЎ, г. Мінск.**

Дакладных звестак аб стане здароўя Р. Рэйгана зараз мы не маем, аб гэтым можна меркаваць па ўскосных даных. Напрыклад, германская газета «Leipziger Volkszeitung» паведаміла гэтымі днямі сваім чытачам, што «хворы Рэйган вымушаны прадаць сваё ранча». Амерыканскі экс-прэзідэнт Рональд Рэйган, у якога выяўлена хвароба Альцхаймера, піша газета, вымушаны адмовіцца ад свайго ранча ў гарах Санта-Йенс у Каліфорніі. Яго прадстаўнік растлумачыў, што прагрэсіруючая стадыя хваробы не дазваляе 85-гадоваму Рэйгану выкарыстоўваць вялізную тэрыторыю ў 275 гектараў.

Рэйган набыў гэтую зямлю 22 гады назад за 480 тысяч долараў. Штогод ён праводзіў там са сваёй жонкай Нэнсі Каляды і іншыя святы.

## ДЗЕ АТРЫМАЦЬ НАЗАД СВАЕ ГРОШЫ?

***Я з'яўляюся (а дакладней — з'яўлялася) укладчыкам «Магнатбанка». Як вядома, Нацыянальны банк РБ прыняў рашэнне аб ліквідацыі гэтага банка. Ужо пэўны час працуе ліквідацыйная камісія. Падкажыце, калі ласка, калі, нарэшце, і дзе я змагу атрымаць назад свае грошы?***

***В. АПЕЦЁНАК, г. Мінск.***

Падобныя лісты «Звязда» атрымлівае і ад укладчыкаў іншых, прызнаных неплацежаздольнымі, банкаў. Паведамляем, што банк, які ліквідуецца ў адпаведнасці з заканадаўствам, павінен разлічыцца са сваімі кліентамі за час работы ліквідацыйнай камісіі — гэта значыць не пазней як праз шэсць месяцаў з пачатку ліквідацыі. Публікуем таксама адрасы і тэлефоны ліквідацыйных камісій некаторых банкаў, куды можна звяртацца са сваімі прэтэнзіямі:

АКБ «Дукат» — г. Мінск, вул. Савецкая, 12. Тэл. 220-19-84.

АКБ «Магнатбанк» — г. Мінск, вул. Крапоткіна, 91А. Тэл. 234-80-75.

АКБ РП «Інтэкс» — г. Мінск, вул. Багдановіча, 155. Тэл. 234-87-06.

АКБ «Содружество» і АКБ «Белорусский кредит» — г. Мінск, вул. К. Чорнага, 27. Тэл. 266-56-31.

## ЯК УРАТАВАЦЦА АД СІНДРОМУ?

***Недзе чула, што з'явіўся нейкі загадкавы «сіндром раптоўнай смерці немаўлят». Звязваюць гэту хваробу з тым, што бацькі гэтых дзетак кураць. Магчыма ўсё гэта лухта. Можа ў вас ёсць якая-небудзь наконт «сіндрому» інфармацыя?***

**Алена БАСІНА, Мінск.**

Так званы «сіндром раптоўнай смерці немаўлят» вывучала група брытанскіх медыкаў. Аднак адразу заўважым, што да канца прырода сіндрому не вывучана.

Гэтая загадкавая хвароба прыводзіць да раптоўнай клінічнай смерці немаўлят без усялякай бачнай прычыны. Ахвярамі становяцца дзеці ва ўзросце да паўгода, смерць наступае часцей за ўсё ў час сну. Як ні дзіўна, найбольш падвергнуты сіндрому развітыя краіны. У Брытаніі сіндром з'яўляецца галоўнай прычынай смерці грудных немаўлят, а ў Германіі штогод забірае жыцці 2 тысяч дзяцей.

Маці 62 працэнтаў загінуўшых дзяцей аказаліся курцамі, у той час як сярод выжыўшых гэты паказчык складае толькі 25 працэнтаў. Фактарам рызыкі становіцца і бацька, які курыць: у дзяцей, якія рэгулярна знаходзіліся ў пракураным пакоі, небяспека лятальнага зыходу аказалася на 61 працэнт вышэй, чым у тых, хто не ўдыхаў тытунёвага дыму.

Атрыманая статыстыка пацвярджае таксама даныя аб тым, што дзеці, якіх кладуць спаць на жываце, часцей становяцца ахвярамі сіндрому, чым тыя, хто спіць на спіне. Небяспечна таксама шчыльна спавіваць дзіця, таму што пераграванне арганізма, што наступае ў выніку гэтага, таксама лічыцца сярод фактараў рызыкі.

У канчатковым выніку парада брытанскіх урачоў бацькам гучыць так: «Сачыце, каб вашы дзеці спалі на спіне, не спавівайце іх вельмі туга і ні ў якім разе не курыце».

## КАМУ ПАТРЭБЕН «ДОКТАР СМЕРЦЬ»?

***У мяне ёсць сваяк, які безнадзейна хворы. У апошні час яго пачаў мучыць страшны боль, і ён марыць толькі аб адным — хутчэй адысці ў свет іншы і не мучыцца. Ці ёсць дзе-небудзь закон, па якім дазваляецца прымяняць урачэбную дапамогу, калі чалавек добраахвотна хоча памерці?***

**Марыя К., гор. Бабруйск.**

Свет ведае пра амерыканскага ўрача Джэка Кеваркяна, якога празвалі «доктар Смерць» за тое, што ён дапамог 27 пацыентам добраахвотна пакінуць жыццё, за што неаднаразова паўставаў перад судом. Да гэтага часу ў адзіным штаце ЗША — Арыгоне — заканадаўча дазволена ўрачэбная дапамога (эўтаназія) пры добраахвотным пакіданні жыцця безнадзейна хворымі. Акрамя таго, з 1 ліпеня гэтага года ў Паўночнай тэрыторыі Аўстраліі ўводзіцца закон, згодна з якім урачам дазваляецца рабіць смяротныя ін'екцыі безнадзейна хворым. У гэтым выпадку факт добраахвотнай смерці павінны засведчыць два хатнія ўрачы пацыента.

У Крымінальным кодэксе Беларусі нават самога паняцця «эўтаназія» не існуе. У прававых колах могуць выкарыстоўвацца азначэнні: незаконнае лячэнне і халатныя адносіны да сваіх абавязкаў. Калі ўрач усё ж адважыцца на смяротны ўкол, дзеянні яго будуць расцэнены судом як забойства.

## КАМПЕНСАЦЫЯ ЗА НЯВЫКАРЫСТАНЫ ВОДПУСК

***Мой муж прапрацаваў на прыватным прадпрыемстве 1,5 года згодна з працоўным пагадненнем. За першы год работы ён водпуск не выкарыстаў. Ці належыць яму кампенсацыя за нявыкарыстаны водпуск у сувязі са звальненнем і ў якім памеры, таму што выплачваць яе не хочуць і не спяшаюцца.***

**І.СТАРАВОЙТАВА.**

Пры звальненні работнікам, якія не выкарысталі ці выкарысталі няпоўнасцю штогадовы водпуск, выплачваецца грашовая кампенсацыя. Калі да дня звальнення работнік працаваў у бягучым рабочым годзе менш чым 11 месяцаў, грашовая кампенсацыя выплачваецца прапарцыянальна адпрацаванаму часу ў наступных памерах за кожны месяц:

пры водпуску 15 дзён — 1,25 сярэдняга дзённага заробку;

— 18 дзён — 1,5 сярэдняга дзённага заробку;

— 24 дзён і месячным водпуску — 2 сярэднія дзённыя заробкі. Такім чынам, вашаму мужу належыць выплаціць грашовую кампенсацыю пры месячным водпуску ў памеры 12 сярэдніх дзённых заробкаў, улічваючы, што ён прапрацаваў у бягучым годзе 6 месяцаў.

**ВЫПУСК «ПЫТАЛЬНІКА» ПАДРЫХТАВАЛІ:**

**Сяргей КУРКАЧ, Сяргей ПРОТАС, Анатоль СЛАНЕЎСКІ, Ігар ШЧУЧЭНКА.**

*РЭПАРЦЁР АТРЫМАЎ ЗАДАННЕ...*

## ЗВЯРНУЦЦА З ВАСЬКАМ ДА АЙБАЛІТА

**Нашым чатырохногім любімцам іншы раз прыходзіцца нялёгка: то зубны боль іх даймае, то ў страўніку нешта неверагоднае адбываецца, а то і сэрца здае. З усімі бедамі адна дарога — у ветлячэбніцу.**

Як даволі жорстка жартуюць самі ветэрынары, самы просты спосаб пазбаўлення ад пакут жывёліны — усыпленне. Укалоў — і пацыент забыўся. Чорны гумар. Між тым дзяржаўныя ветэрынарныя лячэбніцы прапанаваць шырокі спектр паслуг не могуць і ў такіх сур'ёзных выпадках, як захворванне на чумку, звычайна выконваюць гэтую радыкальную працэдуру. Але ж часцей за ўсё за жыццё сяброў меншых сябры большыя змагаюцца ўсімі сіламі, нават у самых безнадзейных выпадках. Трэба дзякаваць нябёсам і людзям у белых халатах, што не згортваюць сваю справу, хоць і займацца ёй няпроста. Але трэба яшчэ мець і тоўсты кашалёк, бо ў кошт лячэння вашага пітомца закладзены кошт дарагіх прэпаратаў, выкарыстання імпартнай тэхнікі, ды і арэнды памяшкання лячэбніцы, у рэшце рэшт, бо сучасныя Айбаліты пад дрэвам прымаць пацыентаў не могуць. Залатым не толькі цяля, але і кацяня можа быць. Затое за жыццё Муркі ці Бобіка хвалявацца не прыйдзецца. У недзяржаўнай ветэрынарнай лячэбніцы і эндаскапічнае абследаванне, і кардыяграму, і рэнтген, і ультрагукавое даследаванне зробяць. Усе гэтыя працэдуры да 50 долараў каштуюць. Яшчэ даражэй толькі лячэнне складаных пераломаў канечнасцей абыходзіцца — ад 70 да 90 долараў. Калі здарыўся просты (адкрыты ці закрыты) пералом, то гаспадару трэба мець 60 долараў. Гіпс накладваецца ўсяго за 10—20 долараў. Выдаленне пухліны — не вельмі дарагая аперацыя. У 10—20 долараў звычайна абыходзіцца. Калі выдаляеце барадаўкі, бяруць па 3 «баксы» за штуку.

Не давайце сваім маленькім сябрам розныя прадметы, якія могуць захраснуць у горле. І рыбай не карміце. Ва ўсякім разе, з касцямі. Выцягваць гэтыя прадметы, па-першае, малапрыемная для жывёліны працэдура, па-другое, нятанная для гаспадара — 7—10 долараў. Розныя касметычныя працэдуры, напрыклад, «манікюр» (абпільванне кіпцюроў), купіраванне вушэй, хвастоў таксама выконваюць ветэрынары. «Манікюр» каштуе 3 долары, пазбаўленне ад хваста — каля гэтага. Змяненне формы вушэй ацэньваецца ў 15 долараў. Стаматолаг вырве зуб за 3—10 «зялёных», вылечыць — за 10—50.

Уводзіць лекі любімцу лепш навучыцца самому — 2 долары на ўколе зэканоміце. А пракансультуюць па гэтаму пытанню на прыёме, які таксама грошай каштуе — 3 долары. Хаця на кансультацыю можна і не ехаць. Выклічце «хуткую» дапамогу, папярэдне падрыхтаваўшы 10 долараў, і чакайце Айбаліта.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

## БЕСПРАЦОЎНЫЯ МОГУЦЬ ПЕРАЕХАЦЬ НА ВЁСКУ. УМОВЫ ЯК БЫЦЦАМ ЁСЦЬ

**На жаль, прыходзіцца канстатаваць: праблема беспрацоўя, якая з'явілася ў нас параўнальна нядаўна, набывае хранічны характар. Разам з тым варыянтаў паляпшэння становішча на рынку працы краіны існуе некалькі, і адзін з іх — перасяленне беспрацоўнага ў іншую мясцовасць. Зрэшты, аб гэтым наша гутарка з начальнікам аддзела арганізацыі працаўладкавання Дзяржаўнай службы занятасці насельніцтва Надзеяй Іванаўнай РАМАНАВАЙ.**

***— Хто можа прэтэндаваць на перасяленне па накіраванню службы занятасці?***

— Фактычна гэта датычыцца любога беспрацоўнага. На перасяленне могуць накіроўвацца мужчыны ва ўзросце ад 18 да 60 гадоў і жанчыны ад 18 да 55 гадоў. Перавага аддаецца сем'ям, але па ўзгадненню з кіраўнікамі гаспадарак перасяліцца можа і адзін беспрацоўны.

***— Размова ідзе аб перасяленні ў сельскую мясцовасць?***

— Так, прычым у любую вобласць Беларусі. Інфармацыю аб вакансіях і ўмовах працы можна атрымаць у цэнтры занятасці насельніцтва па месцы жыхарства. Між іншым, штомесяц яны атрымліваюць да 400 заявак ад кіраўнікоў гаспадарак, таму пэўны выбар, як бачыце, ёсць.

***— Якія спецыяльнасці карыстаюцца попытам?***

— Гаворка перш-наперш аб спецыяльнасцях, якія тым ці іншым чынам звязаны з сельскай гаспадаркай, — механізатара, палявода, даяркі, вадзіцеля, заатэхніка, інжынера-энергетыка і г. д. Ёсць асобныя заяўкі на настаўнікаў і ўрачоў.

***— А зарплата?***

— Яна даволі нізкая — у межах 500 тысяч. Аднак лепш яна, чым дапамога па беспрацоўю, якая сёння складае да 2 мінімальных зарплат.

***— Тады што можа прывабіць беспрацоўных? Умовы?***

— Менавіта яны. Кожнаму, хто наважыцца перасяліцца, павінна быць прадастаўлена жыллё — у асноўным дом сядзібнага тыпу. Апрача таго, беспрацоўныя атрымаюць своеасаблівыя пад'ёмныя — аднаразовую дапамогу ў памеры 5 мінімальных зарплат на галаву сям'і і па 2 мінімальныя зарплаты на кожнага яе члена. Нарэшце, будуць кампенсаваны па дзяржрасцэнках усе выдаткі па пераезду (у тым ліку і на перавоз маёмасці), а таксама выплачаны сутачныя на час пераезду.

***— Але дзе гарантыі, што беспрацоўнаму спадабаюцца ўмовы на месцы?***

— Перад тым як пераехаць, беспрацоўны мае магчымасць сам выехаць на месца і азнаёміцца з жыллём, гаспадаркай і ўмовамі працы. Усе выдаткі пры гэтым служба занятасці бярэ на сябе.

***— Цяперашняя пастанова Міністэрства працы аб пераездзе беспрацоўных у іншую мясцовасць дзейнічае амаль паўтара месяца. Жадаючых шмат?***

— На жаль, пакуль я не магу прывесці канкрэтныя лічбы, таму паверце на слова: зацікаўленасць мы адчуваем.

**Сяргей ГРЫБ.**

**— Як жывецца і працуецца сёння творцу ўвогуле? Як ты ацэньваеш сённяшні стан беларускай нацыянальнай культуры?**

— Як і ўсім, няпроста. Але жаліцца не буду. І няма каму, і не хачу. Нягледзячы на ўсё, пішацца. А гэта — самае галоўнае. Я люблю тыя хвіліны, калі рука сама цягнецца да паперы. Ды, на вялікі жаль, творчасці асабістай застаюцца толькі рэшткі майго часу. Амаль усё забірае рэдактарская праца, грамадскія абавязкі і, канешне ж, у першую чаргу, неўладкаванасць усяго нашага жыцця. Маім папярэднікам і ў страшным сне не магло прысніцца тое, чым сёння павінен займацца галоўны рэдактар «Полымя» дзеля таго, каб часопіс выжыў. Але я не шкадую намаганняў, хай бы толькі заўсёды яны давалі неабходныя вынікі. Спадзяюся, што і надалей «Полымя» будзе гарэць, але, як кажуць, не сінім агнём, а добрым цяпельцам, якое саграване душы людзей.

Сам жа я, як чалавек, што некалі заручыўся са словам, пачуваю сябе нармальна. Мяне не збівае з панталыку нават тое, што дзве мае кнігі паэзіі і публіцыстыкі, эсэ ляжаць без руху (і ў рукапісе, і ў другой карэктуры), бо выдавецтва ў эканамічным плане «села на мель». Нічога, прыдзе час, і яны ўбачаць свет. Гэтую маю ўпэўненасць падмацавалі палякі, якія паказваюць тое, на што здольная нацыя, калі яна згуртаваная, калі ў яе ёсць павага да сваёй гісторыі, ёсць родная мова, культура, нацыянальная ідэя, у якіх жыццё паступова наладжваецца (сярэднямесячная зарплата ў Польшчы зараз 350 долараў). Амаль незнаёмыя мне людзі (перакладчыка Чэслава Сенюха крыху ведаў, а з выдаўцом Рамуальдам Ка́расем пазнаёміўся толькі сёлета ў Гайнаўцы), прачыталі за ноч мае паэмы «Чорная быль» і «Зязюля», а ўранку сказалі: «Нам вельмі спадабалася. Ведаем, што ў верасні твой першы юбілей, а таму хочам зрабіць падарунак. Праз тры месяцы ты будзеш мець кнігу на польскай мове». Шчыра скажу, я іхнім словам не паверыў. І дарма. Роўна за тры месяцы (з сакавіка па май) кніга была перакладзена (прытым добра!) і выдадзена пад назваю «Чорны конь апакаліпсісу». І зроблена яна з густам, з душою.

У нацыянальнай культуры мы маем значныя набыткі, але яны не выкарыстоўваюцца на поўную сілу, грамадства не засвойвае іх. Чаму? Ды таму, што няма дзяржаўнай настроенасці на гэта. Асноўны грунт нацыянальнай культуры — родная мова. Гэта датычыцца і творцаў, і спажыўцоў. Кожны павінен валодаць сваёй, карэннай, базавай мовай. Інакш не будзе ніякага паразумення. А ты ж бачыш, якое ў нас дзяржаўнае стаўленне да дзяржаўнай беларускай мовы. Чыноўнікі ад культуры кажуць: «У нас цяпер рынačная эканоміка. Кнігі на беларускай мове не карыстаюцца попытам, а таму навошта іх выпускаць». Па-першае, ніякага рынку пакуль у Беларусі не існуе, маем толькі «базар», з усімі яго атрыбутамі; па-другое, няпраўда, што беларускую кнігу не купляюць, яе зараз проста няма, не знойдзеш ні ў горадзе, ні ў вёсцы, а па-трэцяе, калі людзі гвалтоўна адлучаны ад усяго свайго, крэўнага, нацыянальнага, то для іх ужо створаная на роднай мове кніга раўназначная той, якая напісана па-кітайску, іерогліфамі.

Тым не менш, думаю, што і наша грамадства ўсё ж некалі дойдзе да разумення мудрых слоў рускага акадэміка Дзмітрыя Сяргеевіча Ліхачова: «Калі ў нацыі няма культуры, яе існаванне не мае сэнсу».

**— Калі ты напісаў свой першы твор? Якое было ўражанне, калі ўбачыў яго ў друку?**

— Мая зямля — лясная, азёрная Ушаччына, дзе я вырас, — паэтычны край. Сама прырода і сёння нашэптвае мне пошумам сасновых вершалін, посвістам ветру ў чаратах нейкія радкі, строфы. Першы кволенькі верш, надрукаваны ў раёнцы, быў прысвечаны палёту Ю. Гагарына ў космас. Вучыўся я тады ў восьмым класе. Сённяшняя моладзь, якая ўжо засынае і прачынаецца з камп'ютэрам, і не ўяўляе, што тады рабілася, якое было ўзрушэнне ў нас — вясковых падлеткаў, якія гадаваліся ў глухамані. А паверыць у свае здольнасці, палюбіць роднае слова мне дапамог выдатны чалавек Уладзімір Ганчароў, які працаваў у абласной газеце «Віцебскі рабочы».

Быў такі выпадак, калі давялося ў снежні месяцы выцягваць з палонкі на возеры малых дзяцей, за што нават маю ўрадавую ўзнагароду — медаль «За выратаванне тапельцаў на водах». Але гэта між іншым. Ледзяная, сцюдзёная купель, бо змушаны быў і сам лезці ў ваду і плаваць у ватоўцы, у кірзавых ботах, скончылася тым, што я цяжка хварэў, надоўга трапіў у полацкую бальніцу. І вось аднойчы забягае ў палату маладзенькая медсястра, трымае ў руках ажно пяць экземпляраў «Віцебскага рабочага» і крычыць: «Паглядзі, твае вершы ў газеце надрукаваны!» Добрая душа, яна так хацела мяне падбадзёрыць. І я, сапраўды, быў за гэта ўдзячны і газеце, і ёй.

Ды ўсё ж адчуванне значнасці друкаванага слова прыйшло да мяне пазней, тады, калі я, будучы ўжо студэнтам універсітэта, узяў у рукі «Натхненне» (ёсць такі зборнік літаратурнага аб'яднання «Узлёт»), убачыў свае вершы ў кнізе, удыхнуў непаўторны пах друкарскай фарбы. Гэта запомнілася назаўсёды.

**— Камсамол, журналісцкая работа ў «Чырвонай змене» і «Звяздзе». Што табе гэта дало?**

— Бытавала, прабач за яе фрывольнасць, такая ацэнка камсамола: «Гэта тая арганізацыя, дзе працуюць, як дзеці, а выпіваюць і «кахаюцца», як дарослыя». Многа і цяпер гаворыцца негатыўнага пра камсамол. І часта слушна, справядліва. Але ўсё, што было, перакрэсліваць не трэба. Вядома ж, хапала і фальшывага пафасу, і пустапарожняй балбатні. Ды лозунгі і траскатня — гэта адно, а канкрэтныя справы — зусім іншае. Я працаваў некалькі гадоў другім сакратаром Ушацкага райкома камсамола. І добра ведаю, што на раённым узроўні той уяўнай «дзейнасці» было значна менш, чым у верхніх эшалонах. Наш раён эканамічна бедны. Яго сілы падтачылі вайна (кожны другі жыхар загінуў) і адток моладзі ў блізкія і далёкія краі Савецкага Саюза па шматлікіх вярбоўках. Таму мне разам з хлопцамі і дзяўчатамі, якія заставаліся, даводзілася шчыраваць на пастаянных «суботніках», «нядзельніках», ды і ў рабочыя дні на лузе, у полі, на цагельні. А яшчэ цягалі з балот карчы на меліярацыі, здавалі кроў, калі ў бальніцы была патрэба. І нават хлеб пяклі, бо не хапала рабочых у пякарні. Гэтай сумнай працы заўсёды спадарожнічалі добрая, шчырая гаворка, песня, жарты, весялосць. А таму для мяне той камсамол — не пасяджэнні, не «ленінскія залікі», не «ліпавыя» справаздачы, а проста само — звычайнае і канкрэтнае — маладое жыццё.

Любая праца нешта дае чалавеку, а журналісцкая — тым больш. Пашыраецца яго кругагляд, бачанне глыбіні і шматмернасці чалавечага быцця. І што асабліва каштоўнае, дык гэта знаёмства з новымі, цікавымі людзьмі, з рознымі куточкамі роднага краю.

**— 8 гадоў ты працаваў у ЦК КПБ: 1978—1986. Гэта быў перыяд праследавання іншадумства, многім па-сапраўднаму таленавітым людзям жылося няпроста... Ці не згадаў бы больш падрабязна той час, прыпомніў бы колькі эпізодаў: сумных і забаўных?...**

— Так, працаваў. Ёсць такі факт у біяграфіі. І ніколі не буду саромецца гэтага. Павінен сказаць адразу: у апараце ЦК былі не толькі «цэрберы». Сектар мастацкай літаратуры, дзе я быў загадчыкам, якраз стараўся абараніць таленавітыя творы ад «уразання», «прыгладжвання». Удавалася гэта не заўсёды, бо, як кажуць, вагавыя катэгорыі былі ў мяне і ў тых, хто тады меў права судзіць, няроўнымі. Але я маю, скажам, такія аўтографы: «Сяргею Законнікаву, які спрыяў гэтай кнізе. Алесь Адамовіч» — гэта на шматпакутных «Карніках»; «Дарагі Сяргей, каб ведаў: воўчая зграя не страшнейшая за чалавечую. Каб цябе бог мілаваў ад апошняй. Васіль Быкаў» — на аповесці «Воўчая зграя»; «Дарагому Сяргею Законнікаву, таленавітаму паэту з добрай віцебскай кагорты. З любоўю — Пімен Панчанка» — на кнізе «Маўклівая малітва», з якой хацелі зняць сем вершаў, але ўсе іх удалося адстаяць...

Таленавітым і праўдзівым людзям жывецца няпроста ў любы час. Так, у тыя гады шмат перашкод чынілася такім выдатным пісьменнікам, як Васіль Быкаў, Уладзімір Караткевіч, Пімен Панчанка, Алесь Адамовіч, Алесь Разанаў. Іх рукапісы траплялі на «чыстку» ў аддзел прапаганды і агітацыі ЦК КПБ, у ЦК КПСС, і цэнзура сама пакрэмзала таксама нямала старонак. Але пік ганенняў, пра якія ты кажаш, на той час ужо, дзякуй Богу, мінуў. Выключалі з партыі, здымалі з работы, ссылалі на перыферыю за «нацыяналізм» раней. І як бы там ні было, але ж парадуемся ўжо хоць бы таму, што ў шасцідзесятыя —васьмідзесятыя гады ніводзін пісьменнік у Беларусі не быў асуджаны. А мы ведаем, што рабілася, скажам, на Украіне... Канешне ж, суцяшэнне малое, але гэта таксама праўда, якую нельга забываць. Іншая справа, што ніхто не злічыць пакут, страчанага здароўя, усяго таго, што без турмаў і лагераў выпала на долю сумленных, таленавітых людзей. Ды ў нашым грамадстве «гаек і вінцікаў» сам чалавек ніколі не меў ніякай каштоўнасці.

Многае, вядома ж, залежала тады ад кіраўнікоў рэспублікі. Але яны былі людзьмі сістэмы. У тых рамках і дзейнічалі. Гэта праўда, што і пры іх закрываліся беларускія школы, ішла вайна з «нацыяналізмам», нарастаў працэс «суперінтэрнацыяналізацыі», або, прасцей кажучы, русіфікацыі ўсяго нашага жыцця. Але давайце помніць і тое, што якраз пры іх рэспубліка мела дасягненні ў эканамічным развіцці, яны стараліся абараніць пэўны жыццёвы ўзровень народа ад валюнтарысцкіх памкненняў саюзных «правадыроў», якія адносіліся да Беларусі як да «дойнай кароўкі». Ды і беларускае кнігавыданне, і энцыклапедычная справа, і ўвогуле культура Беларусі мелі не сённяшні ўзровень.

Гэта былі прадстаўнікі свайго часу, але адукаваныя, інтэлігентныя людзі, якія ўсё ж з павагай ставіліся да інтэлектуалаў, творцаў і імкнуліся да паразумення з імі.

А эпізодаў — сумных і забаўных — было хоць адбаўляй. Ды гэта асобная гаворка.

**— Дзесяць гадоў ты — галоўны рэдактар часопіса «Полымя», вядучага літаратурна-мастацкага выдання Рэспублікі Беларусь. За гэты перыяд часопіс апублікаваў шмат выдатных твораў, нямала таго, што доўгі час хавалася, замоўчвалася... Што адчуваеш ты ад гэтай працы? З кім з аўтараў і чаму табе прыемна працаваць, кантачыць?**

— У «Полымі» прайшло ўжо дзесяць гадоў! Скажу шчыра, што я і сам не заўважыў, як яны прамільгнулі. А чаму? Ды таму, што гэтая праца, хоць і турботная, нялёгкая, прыносіць мне радасць, добры настрой, задавальненне ад зробленага ўсім нашым калектывам. Як рэдактар, я з пашанаю і ўвагаю стаўлюся да творчасці ўсіх пакаленняў беларускіх пісьменнікаў, вітаю і падтрымліваю нараджэнне кожнага новага таленту. І без перабольшання магу занзначыць, што ў «Полымі» друкуюцца лепшыя набыткі айчыннай літаратуры. Наша ацэнка рукапісаў, наша мерка мастацкага ўзроўню твораў застаюцца нязменна строгімі і патрабавальнымі.

Сапраўды, гэтае дзесяцігоддзе для «Полымя» было плённым. Надрукавана шмат выдатных сучасных твораў, вернуты са сховаў, з архіваў КДБ каштоўныя рукапісы таленавітых людзей, якія загінулі ў сталінскіх турмах і лагерах, вялікая ўвага ўдзялялася даўняй і блізкай гісторыі нашай Айчыны, бо без гэтага нельга ісці ў будучыню.



Сяргей Законнікаў з мітрапалітам Філарэтам.
Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.

Ёсць аўтары, чыя прысутнасць на старонках «Полымя» робіць гонар нашаму часопісу. Напрыклад, усе свае аповесці і апавяданні сусветна вядомы пісьменнік Васіль Уладзіміравіч Быкаў друкуе толькі ў «Полымі». Так ён вырашыў. І я надзвычай удзячны яму за гэта. Такія аўтары не толькі дапамагаюць зрабіць часопіс паўнаважкім, змястоўным. Васіль Уладзіміравіч — чалавек бязмежна шырокага інтэлектуальнага кругагляду, гэта філосаф, мудрэц, гэта Асоба ў самым поўным сэнсе слова. Кожная гаворка з ім духоўна ўзбагачае мяне. Радуюся заўсёды прыходу ў рэдакцыю Янкі Брыля, Міколы Аўрамчыка, Рыгора Барадуліна, Генадзя Бураўкіна, Ніла Гілевіча, Васіля Зуёнка, Вячаслава Адамчыка, Віктара Казько, і, канешне ж, таленавітых прадстаўнікоў майго пакалення — Вольгі Іпатавай, Аляксея Дударава, Уладзіміра Някляева. Усіх пералічыць цяжка. З такімі людзьмі не толькі цікава гаварыць. Часам, у цяжкую хвіліну, нават і памаўчаць разам добра. Паглядзець адно аднаму ў вочы і многае адчуць, зразумець. Дзякуй ім!

**— Я ведаю пра тваю асабістую вялікую і шчырую дружбу з Петрусём Броўкам, Уладзімірам Караткевічам, Васілём Быкавым, Піменам Панчанкам, Рыгорам Барадуліным, Генадзем Бураўкіным, Аляксеем Дударавым і многімі іншымі выдатнымі беларускімі майстрамі слова. Што давала і дае табе гэтае сяброўства?**

— Гэтае сяброўства, як я ўжо сказаў, узбагачае мяне, бо чалавек, колькі ні жыве, заўсёды вучыцца, многае каштоўнае пераймае ад іншых. Усіх названых людзей вышэйшая воля шчодра надзяліла і талентам, і выдатнымі чалавечымі якасцямі. Яны не абышлі сваёй увагаю, ласкаю і мяне. А таму я і ганаруся такім сяброўствам, і даражу ім. Шмат добрага зрабіў для мяне Пятрусь Усцінавіч Броўка. Зрабіў тады, калі мне было цяжкавата. А незабыўны Уладзімір Сямёнавіч Караткевіч! Непаўторны, высокі талент, найадданейшы і ўдзячны сын Беларусі. Бяру, часам, у рукі ягоныя кнігі, чытаю душэўныя, дасціпныя надпісы, зробленыя такім акуратным, прыгожым почыркам, і многае ўспамінаю. Нашы сустрэчы ў хаце маіх бацькоў, у маім ушацкім прытулку, на вольных азёрах, у ягонай гасціннай кватэры ў Мінску, у іншых месцах. Нашы гаворкі: і тужліва-шчымлівыя пра лёс гаротніцы-Беларусі, і радасныя — скажам, з выпадку выхаду яго новай кнігі, і жартаўлівыя, усмешлівыя, калі Уладзімір Сямёнавіч успамінаў нешта вясёлае са свайго жыцця-быцця. Скразны прагал у маім сэрцы — адыход ад нас Пімена Емяльянавіча Панчанкі. Гэты чалавек — сумленне нацыі. Такі добры і светлы, мужны і сціплы, цярплівы і ранімы. Ён часта адкрываў мне сваю душу. Такое ніколі не забудзецца. Я ўдзячны лёсу за сяброўства з Васілём Уладзіміравічам, Рыгорам, Генадзем, Аляксеем. Іх прысутнасць у нашым беларускім жыцці і, на маю радасць, у маім асабістым дапамагаюць не зняверыцца, цвёрда стаяць на сваёй зямлі.

Добрым словам я стараўся аддзячыць усім гэтым людзям за шчырасць і душэўнае цяпло. І калі трохі пажыву, то напішу і болей, і лепш.

**— Апошнім часам ты даволі гучна заявіў аб сабе паэмамі «Чорная быль», «Цівалі», «Зязюля», шэрагам вялікіх падборак вершаў на сучасныя тэмы... Гэта, вядома ж, проста цудоўна. А як ты — і як творца, і як рэдактар — ацэньваеш стан сучаснай беларускай літаратуры?**

— «Гучна заявіў» — гэта ты занадта... Можа, нешта і ўдалося сказаць у паэмах, вершах пра тое, што хвалюе людзей, бо маю вялікую чытацкую пошту. Ёсць станоўчыя водгукі крытыкі. Добрае слова сказалі такія Майстры, як Пімен Панчанка, Васіль Быкаў. Іх ацэнка вельмі важная для мяне. Але самаздаволеным быць нельга. Можна і трэба рабіць з яшчэ большаю нагрузкаю. Час такі. Ад кожнага з нас, дзе б хто ні працаваў, залежыць многае. А па вялікім рахунку — быць ці не быць Беларусі незалежнай, цывілізаванай, духоўна і матэрыяльна багатай дзяржаваю.

Я — не крытык, не літаратуразнаўца, а проста чытач, рэдактар, ну, і яшчэ чалавек, які ў меру сваіх здольнасцей нешта робіць у паэзіі, публіцыстыцы. А таму абыдуся без нейкага грунтоўнага, акадэмічнага аналізу.

Наша літаратура, можа, не самая лепшая, але і не самая горшая ў свеце. Пра гэта сведчаць яе набыткі. Я збольшага стараюся сачыць за тым, што робіцца ў суседніх літаратурах. Калі бываю за мяжою, то наладжваю кантакты з пісьменнікамі, наведваю рэдакцыі часопісаў, выдавецтвы. Магу нейкім чынам параўноўваць, зыходзячы з агульных крытэрыяў, хоць гэта ўсё, вядома ж, складана. Ды і любая ацэнка — заўсёды суб'ектыўная, як бы ты ні стараўся быць справядлівым.

Хачу сказаць адно. Мяне радуе тое, што беларуская літаратура апошнім часам становіцца больш інтэлектуальнай, у лепшым сэнсе гэтага слова — сучаснай. Гэта добра, бо жыць толькі адным мінулым, хай сабе выпакутаваным слязьмі і крывёю, хай сабе неймаверна дарагім, нельга. Трэба думаць пра будучыню, пра тых, хто ідзе і прыйдзе ў жыццё за намі.

**— Як ты разумееш нацыянальную ідэю? І тут жа яшчэ пытанне, звязанае з папярэднім: ці ідзе ў нас сёння нацыянальнае адраджэнне?**

— Мною ўжо шмат напісана і сказана на гэтую тэму. Паўтаруся коратка яшчэ раз.

Нацыянальная ідэя— гэта быць роўным сярод роўных.

Будзем шчырымі — ідзе не адраджэнне, а нацыянальнае выраджэнне. І толькі дурань або цынік могуць сцвярджаць адваротнае. Сёння мы губляем нават тыя невялікія набыткі, якія займелі з часу абвяшчэння незалежнасці.

**— Духоўнасць нацыі. На якім яна сёння ўзроўні ў Рэспубліцы Беларусь?**

— У ацэнцы духоўнасці нацыі сёння можна, канешне ж, кідацца ў крайнасці: ад змрочнага песімізму да бяздумнага, самаздаволенага аптымізму. Нягледзячы на складанае становішча, не хацеў бы панікаваць. Я веру і вераю ў сваю нацыю, у яе жывую маладосць. Яшчэ невядома, што будзе наперадзе.

**— Твае адносіны да двухмоўя?**

— Я нармальна стаўлюся да шматмоўя: і двух, і трох, і сямі... Чым большай колькасцю моў валодае чалавек, тым вышэйшую прыступку займае ён у сваім развіцці.

Але любога чалавека мы вызначаем па адметнасці характару і мове. Калі ментальнасць — катэгорыя больш прыхаваная, то родная мова заўсёды з'яўляецца візітнаю карткаю, яна першая. І кожны цывілізаваны народ ганарыцца сваёй моваю, а дзяржава абараняе яе. Напрыклад, у Францыі прыняты закон аб абароне роднай мовы ад іншаземнага ўплыву.

А калі гаварыць пра канкрэтную беларускую сітуацыю, то ў нас факта двухмоўя ў наяўнасці няма. Дажыліся, што не валодаем ніякай моваю. Толькі зрэдку можна пачуць з вуснаў адукаванага чалавека прыгожую, багатую адценнямі рускую мову. Нашы людзі, якія лічаць сябе рускамоўнымі, абыходзяцца двума-трыма сотнямі слоў. Мне, як філолагу, паэту і проста чалавеку, надзвычай сорамна за ўбогі і па лексіцы, і па вымаўленні страшэнны сленг-гібрыд, за ўжытковы кастрыраваны варыянт рускай мовы, які, хоць і шырока бытуе ў Беларусі, ды нічога не здольны нарадзіць. Гэта яскрава паказвае практыка жыцця.

Прыхільнікі нашага «двухмоўя» не заўважаюць і самі, як яны, замест набытку і ўзбагачэння, многае страцілі і далей страчваюць у сваім жыцці. Так што няма чаму радавацца.

**— Якія якасці чалавека ацэньваеш вышэй за ўсё?**

— Сумленнасць, дабрыню, здольнасць паразумення, розум і талент.

**— Што ненавідзіш?**

— Крывадушнасць і апломб.

**— Слабасці ў цябе ёсць: як у чалавека, рэдактара?**

— Канешне ж ёсць. Не без таго. Усе мы — людзі, на якіх кладуць свой адбітак выхаванне, час, само жыццё. А многае і ў генах закладзена. Змалку не прывык віляць, хітраваць, а рэжу праўду-матку ў вочы. Не раз ужо гэтая шчырасць вылазіла мне бокам. А яшчэ я, нягледзячы на знешні спакой, чалавек эмацыянальны і нават сентыментальны.

Як у рэдактара, у мяне высокія патрабаванні. Але, хоць вельмі рэдка, ды бывае, калі, паважаючы ўзрост пісьменніка, улічваючы нейкія важныя акалічнасці яго жыцця, падпісваю да друку твор, без якога часопіс мог бы абысціся.

А наконт іншых чалавечых слабасцей лепш папытай у маёй жонкі. Яна судзіць найбольш строга.

**— Ці ёсць якія-небудзь жыццёвыя прынцыпы, дзеля якіх ты гатовы шмат чым ахвяраваць?**

— Праўдзівасць ва ўсім. Дзеля чаго магу ахвяраваць і спакоем, і становішчам, і дабрабытам.

## 15 ВЕРАСНЯ РЭСПУБЛІКА АДЗНАЧЫЛА ДЗЕНЬ РАБОТНІКАЎ ЛЯСНОЙ ГАСПАДАРКІ



Прозвішча Дзесюкевічаў добра ведаюць у нас у рэспубліцы. Гэта цэлая дынастыя, якая ўжо больш за сто гадоў працуе ў лясной гаспадарцы. Віктар Аляксандравіч працуе ляснічым Нёманскага лясніцтва вось ужо 35 гадоў. Уважлівы, чулы і добры чалавек. Пра сябе гаворыць сціпла, сарамліва: «Мой дзед 30 гадоў прапрацаваў у лесе яшчэ пры цару, бацька таксама 30 гадоў прапрацаваў пры савецкай уладзе, цяпер вось я перадаў справу ў рукі сына, які працуе ляснічым у Уздзенскім лясніцтве». Клопатаў у Віктара Аляксандравіча шмат, гаспадарка ж у яго вялікая — больш 9,5 тысячы гектараў лесу, а гэта і прачысткі, і высечкі, і ахова, і новыя пасадкі. І заўсёды ён ва ўсім паспявае, нягледзячы на свой узрост, а ён жа ўжо пенсіянер.

**Фота Уладзіміра ФЯДОТАВА.**

### АНТАЛОГІЯ БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНІ

# ОЙ, СІВЫ КОНЬ БЯЖЫЦЬ

Конь прыносіць поспех свайму гаспадару-сябру, выручае яго ў розных здарэннях, засцерагае ад нячыстай сілы.

У казках і паданнях адлюстраваны вернасць і знаходлівасць каня. У паэтычных творах ён падаецца як сімвал вольнасці, вандроўніцтва, саюзнік дарогі і прасторы.

Своеасаблівай зарукай вернасці ў каханні з'яўляецца конь у песні «Ой, сівы конь бяжыць»: пры ім хлопец просіць дзяўчыну даць згоду на саюз. Аднак каханне, як агромністае вогнішча, успыхвае часта з непрадказальнай сілай. Яно не толькі асвятлае, але і асляпляе закаханых, не толькі грэе, але і спапяляе іх. Многім давялося спазнаць у каханні радасць і горыч, натхненне і пакуты, светлыя імгненні шчасця і боль, слёзы. Дзяўчына перажыла гэты боль, яна ведае пра імклівасць пачуццяў, хуткаплыннасць страсці...

Мелодыя, звонкая, рухавая, у асобных месцах мяккая і лірычная, сведчыць: усё мінецца, загояцца душэўныя раны, прага жыцця абудзіць новыя пачуцці.

**Міхась ШАВЫРКІН.**




## ОЙ, СІВЫ КОНЬ БЯЖЫЦЬ

**Беларуская народная песня**

Ой, сівы конь бяжыць,
На ім бела грыва,
Ой, спанаравілась,
Ой, спанаравілась
Мне тая дзяўчына.

Не так та дзяўчына,
Як яе лічанька.
— Ой, падай, дзяўчына,
Ой, падай, дзяўчына,
На каня ручаньку.

Рукі не падала,
Тры словы сказала:
— Няхай бы я была,
Няхай бы я была,
Кахання не знала...

Бо тое каханне
З вечара да рання...
Як сонейка ўзыдзе,
Як сонейка ўзыдзе,
Каханне разыдзе.

### 36,6°

## АБАРАНІ СВОЙ ДОМ

**Прастора, у якой мы жывём, насычана рознага роду выпраменьваннямі — як прыроднага, так і штучнага паходжання.**

**Многія з іх аказваюць на нас шкоднае ўздзеянне, прыводзяць да ўзнікнення розных захворванняў. Некалькі простых парад аб тым, якім чынам звесці да мінімуму гэта ўздзеянне, дае польскі біяэнергатэрапеўт Богдан Душэўскі.**

1. Ліквідуйце павуцінне электрычных правадоў на падлозе. Перш за ўсё яны не павінны быць пад вашым ложкам.

2. Помнячы, што выпраменьванне ад тэлевізара ідзе ў асноўным з тыльнага боку, ніколі не стаўце дзіцячы ложак за сцяной, у якой знаходзіцца тэлевізар.

3. Калі ў сцяну, каля якой размешчана ваша пасцель, уманціравана электрычная размеркавальная каробка або нешта падобнае, неадкладна перастаўце ложак.

4. Канапы і крэслы рэкамендуецца пакрываць шарсцяной тканінай.

5. Вазьміце за правіла трымаць у кожным пакоі няцотную колькасць свечак у падсвечніках (не ніжэй 25 см) і запальваць іх як мага часцей вечарамі. Гэта дапаможа рассеяць негатыўную энергію, што накопліваецца ў памяшканні.

6. Не садзіцеся на рагу стала: там дзейнічае так званае «шэрае» выпраменьванне, якое будзе адпалохваць ад вас людзей.

7. Гатуючы ежу, мяшайце яе заўсёды па гадзіннікавай стрэлцы; гэта ўзмоцніць яе энергетычны зарад.

8. Перад тым як рэзаць хлеб, перахрысціце яго — гэта таксама ўзмоцніць яго энергетычны патэнцыял.

9. Пад сядзеннем любімага крэсла прымацуйце два скрыжаваныя алоўкі: гэта аслабіць негатыўнае выпраменьванне вакол гэтага месца.

10. У кожную хрустальную пасудзіну ў доме пакладзіце па дзве фасоліны або арэхі, каб папярэдзіць узнікненне небяспечных рэзанансных вібрацый, якія могуць выклікаць у хрустальным посудзе негатыўныя выпраменьванні прыроднага і штучнага паходжання.

*«Тайная власть».*

### НА АТРЫМАННЕ ДЗЯРЖАЎНАЙ ПРЭМІІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# ЛЕКСІКАГРАФІЧНЫ ПОМНІК АЙЧЫНЕ

**Вылучаны на атрыманне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь цыкл работ Г. Юрчанкі «Слоўнік народнай мовы Мсціслаўшчыны» ўяўляе сабой унікальную лексікаграфічную працу, аналагаў якой нават цяжка адшукаць у сусветнай дыялекталагічнай практыцы.**

Без перабольшання можна сказаць, што ў нашым пакаленні здзейснена падзвіжніцкае, пасільнае хіба што цэламу навуковаму калектыву даследаванне, вартае лексікаграфічных адкрыццяў родапачынальнай эпохі літаратурнай мовы (эпохі І. Насовіча). «Слоўнік» Г. Юрчанкі, выдадзены дзевяццю лексіка-манаграфічнымі выпускамі на працягу 1966—1988 гг., убірае ў сябе надзвычайны па аб'ёму (150 друкаваных аркушаў!) і па лінгвістычнай каштоўнасці ўласнаручна сабраны і навукова пашпартызаваны матэрыял, які з'яўляецца сапраўдным мовазнаўчым помнікам Бацькаўшчыне, узорам зайздроснай краязнаўчай, радзімазнаўчай дбайнасці аб сваёй старонцы. Перакананы, што суайчыннікі, настаўнікі будуць ганарыцца гэтым здабыткам.

Значэнне збораў Г. Юрчанкі для дыялекталогіі, для айчыннага мовазнаўства ў цэлым цяжка пераацаніць. Праца не выпадкова набыла такую шырокую вядомасць на радзіме, высока ацэнена за мяжой, атрымаўшы водгукі аўтарытэтных рускіх, украінскіх, балгарскіх, чэшскіх, нямецкіх вучоных. «Слоўнік» каштоўны паўнатой комплекснага даследавання (у зрэзе лексічным, фразеалагічным, сінанімічным) выбранага рэгіёна ўсходнебеларускіх гаворак.

Працуючы самастойна над вырашэннем гэтай комплексна-аб'ёмнай задачы, таленавіты, з рэдкай чуйнасцю да народнага маўлення лексікограф мусіў істотна ўдакладніць рабочыя методыкі апісання слоўнікавага матэрыялу, якія прызнаны арыгінальным, у далейшым удасканаленні алфавітна-гнездавога спосабу, узбагачаюць сваімі мэтазгоднымі прапановамі сусветную лексікаграфічную тэорыю і практыку. Прадстаўлены ў «Слоўніку» лексічны корпус на 50 тысяч нумароў прываблівае спецыялістаў усебаковай апрацаванасцю, дыферэнцыраванасцю характарыстык розных адценняў (паметкі: літаратурнае, абласное, размоўнае, спецыяльнае, пераноснае, іранічнае і г. д.).

Лексічныя адзінкі, фразеалагічныя абароты, сінанімічныя рады «Слоўніка» праілюстраваны, можна сказаць, з вычарпальным багаццем і разнабаковасцю самім гутарковым матэрыялам. У асобе Г. Юрчанкі, былога вяскоўца, а сённяшняга гараджаніна мы маем узорнага, карэннага носьбіта гутарковай моўнай стыхіі, які працягвае жыць у ёй, чэрпаючы з яе радовішчаў, не перасохлых яшчэ крыніц моўныя самацветы, сінтаксічныя перлы, рэдкую сінанімічную гаму. У гэтым сэнсе надзвычай адэкватна ўзноўлены ілюстрацыйны матэрыял уяўляе і самастойную каштоўнасць. Гэта кніга для чытання па гутарковай народнай мове, да якой мы мусім прыпадаць, як Антэй да зямлі, бо толькі тут ні на хвілю не спыняюцца працэсы словаўтварэння моўнага генія, выносячы на паверхню яго словатворчымі высілкамі лексічныя крышталі. Тут прадстаўлена жывая лексіка, з якой гэтак каларытна паўстаюць народныя характары, ва ўсім яшчэ адчувальны стэрэатып этнічных паводзінаў, не выветраны часам водар родных гоняў.

І тут варта падкрэсліць. Апошняе нікольні не змяншае значэння літаратурнай мовы, сістэмы тыпізаванай, са сваім вышэйшым прызначэннем, мы толькі не павінны забываць, што там яе вытокі, рэзервы, папаўненне, а не ў славатворчасці «на асфальце» ці ў жабрачым запазычанні — усё адно, у блізкіх альбо ў далёкіх, суседзяў.

Падзвіжніцкі прыклад Г. Юрчанкі кліча кожнага з нас гэтак жа дбаць пра свой зямны куток, якім ускормлены, з якога выпраўляўся ў людзі і з якім, каб не зачахнуць, не павінны парываць свае генетычнае сувязі.

Запатрабаванні сацыяльна-культурнага адраджэння, клопаты сучаснай моўнай палітыкі, якая вымагае ад мовы суверэннай дзяржавы самага інтэнсіўнага ўзбагачэння ва ўсіх разгалінаваных сферах грамадскага ўжытку і заняцця ёю пачэснага пасаду ў сям'і моў планеты, са свайго боку пацвярджаюць узрослую актуальнасць лексікаграфічнай працы Г. Юрчанкі і яе годнасць на атрыманне высокай дзяржаўнай прэміі.

**Алесь ЯСКЕВІЧ,**
**доктар філалагічных навук.**

## ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

Палесцінская служба бяспекі дабілася спынення будаўніцтва першага ў краіне казіно, якое будавалася на ўскраіне горада Іерыхон. Рашэнне прынята не з-за маральных або рэлігійных меркаванняў. Па інфармацыі з палесцінскіх крыніц, ізраільская разведка зрабіла намёк чыноўнікам урада Ясіра Арафата, што праект часткова фінансуецца рускай мафіяй. У комплексе будынкаў казіно прадугледжвалася і будаўніцтва шыкоўнага гатэля для патэнцыяльных ігракоў з арабскіх краін і Ізраіля. Між тым у Ізраілі азартныя гульні забаронены законам.

**Асашыэйтэд Прэс.**

Звычка пакідаць сваё дзіця ў калясцы ля ўваходу ў магазін каштавала жыхарцы Чэлябінска немалых хваляванняў. Калі яна выйшла з гандлёвай кропкі, то ўпала ў глыбокі шок: малы сядзеў на асфальце і крычаў, а дарагая імпартная каляска знікла. Кража адбылася сярод белага дня насупраць прыпынку грамадскага транспарту. Відавочна, зламыснікі дзейнічалі вельмі хутка: ніхто не заўважыў, як малога вытрасалі на зямлю.

**ЕАН.**



*Восень, як вядома, — час вяселляў. Звяздоўцы не рушаць традыцый — наш калега* ***Юрась Ляшкевіч*** *узяў шлюб з чароўнай* ***Аленай.*** *Шчыра віншуем маладую сям'ю, зычым ладу, моцных пачуццяў, здароўя, дабрабыту.*

## СЁННЯ

### СОНЦА

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 6.45 | 19.23 | 12.38 |
| Віцебск – | 6.34 | 19.14 | 12.40 |
| Магілёў – | 6.34 | 19.12 | 12.38 |
| Гомель – | 6.34 | 19.06 | 12.32 |
| Гродна – | 7.02 | 19.35 | 12.33 |
| Брэст – | 7.02 | 19.38 | 12.36 |

### МЕСЯЦ

Маладзік 13 верасня

### ІМЯНІНЫ

Пр. Маісея, Іаасафа Белгародскага, Вавілы. Іконы Божае Маці «Неапалімая Купіна»

К. Роберта, Юстына.

### НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца воблачнае надвор'е, часам дождж. Тэмпература паветра ў Мінску — 9—11, Гродне, Брэсце, Гомелі, Магілёве — 10—12, Віцебску — 11—13 градусаў цяпла.

У наступныя двое сутак чакаецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, у паўднёва-ўсходніх раёнах пройдуць кароткачасовыя дажджы. Тэмпература ўначы — 3—8, па паўночна-заходняй палавіне месцамі замаразкі да 0 — мінус 2; удзень — 9—14 градусаў цяпла.



ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400, Маскве — 365-16-44; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 91852. Індэкс 63850.
Зак. № 6126.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12